## Чорны чарадзей



– Грачык, ці помніш, адкуль ты ў мяне ўзяўся? – запыталася Гражынка ў чорнага птаха, які сядзеў на стаячым люстэрку. Грак паправіў пёры на грудзях, паківаў галавой, маўляў, не твая ў мяне памяць, чаго ж пытаешся, дзеўбануў сябе між пальцаў лапкі і выгукнуў:

– Гр-р-ражынка, памятаю ж! – бо Грачык умеў гаварыць, да таго ж з толкам, не паўтараючы пачутае, бы той папугай, слова ў слова. Аб гэтым ведала пакуль толькі Гражынка, яго-ная гаспадынька, а мама з татам ды бабуля меркавалі, што грак вельмі разумны, хоць, па праўдзе, умее прахрыпець пару слоў, і добра. Гражынцы, у якой сяброў было няшмат, гэтая птушка далася як бы на пацеху. Яна знайшла яе пад ліпай на панадворку ў палове мая, якраз тады, як вылупліваліся грачаняты – выпала малое з гнязда. Дзяўчынка адхукала яго, аблашчыла, і хоць грак мог паляцець на волю, ды не пакідаў сваёй заўсёды расчыненай клеткі. Відаць, добра было яму. А, можа, былі ў яго свае справы з Гражынкай? Грак меў голыя шчокі і аснову дзюбы: па гэтым і пазнаюцца маладыя гракі. Быў ён цалкам чорны, з металічным бляскам – адным словам, прыгажун. Праўда, у Гражынчынай сяброўкі быў зялёны папугай, Кешка, якім тая ўсё хвалілася, але той Кешка ўмеў сказаць адно: „Кешка харошы”. А Гражынка з Грачыкам магла нармальна паразмаўляць. І гэта ён навучыў Гражынку гаварыць не „Глазынка”, а правільна – Гражынка. Гражынцы чамусьці спачатку не ўдавалася гэтак сказаць; ці то язык „няплавільна” звіваўся ў „тлубацку”, ці дакранаўся непатрэбна да зубоў або нёба – і ўсё неяк па-дзіцячаму атрымлівалася, хоць Гражынка была ўжо вялікая дзяўчынка. Ці Грак гэта нейкі „Гляк”? – вучыў яе Грак. – Ніколі!

Вядома, гракі, як і крумкачы-крукі, разумныя птахі, а з узростам яны ўвогуле мудрэюць. Неяк паўтараючы табліцу мно-

жання, Гражынка пераканалася, што Грак ведаў, колькі будзе, калі восем памножыць на тры – адразу закаркаў: „Дваццаць чатыр-р-ры!” I прадказаць умеў надвор’е – „Гр-р-ром!”, і нават прадбачыць вынікі грамадскіх выбараў. А найлепш удаваліся яму варожбы і гараскопы. Зразумела, усе думалі, што гэта Гражынка такая вядуння.

– Ты, Гражынка, мусіць, чараўніца! – заўважыў тата Коля, калі дачка прадбачыла галалёдзіцу, і то такую, што лепш было не выбірацца яму ў камандзіроўку на легкавой машыне. Тата паехаў на цягніку разам з калегамі, і не трапіў у аўтакатастрофу, якая здарылася тады на той дарозе...

## Хлеб надзённы

– Негаспадарлівая ты, – насварылася бабуля Гандзя на маму Олю. – Нашто столькі хлеба купляць! Высахне, запляснее. Людзі нават у сметніцу хлеб кідаюць!

Грак моўчкі схапіў скарынку жытняга хлеба. Ну і што, што падсохлая, але з’есці можна. Адно прыкра, што пакаленні сварацца. Мама Оля – таксама дзіця для бабулі Гандзі, і час ад часу тая настаўляе яе ды папракае. Нават пры ўсіх. А Граку хочацца ўсім угадзіць – і пільнаваць, каб мама не пакрыўдзілася, і на Гражынку не перакінула благога настрою, і каб бабуля не адчула, што яе ніхто не слухае. Вядома, жанчыны! I тата Коля хоча, каб у хаце было ціха. Грак разумее тату. Тата прыносіць дахаты грошы, любіць чытаць газеты і глядзець навіны ў тэлевізары. Тэлевізар – добрая справа. Грак, калі адзін застаецца ў хаце, дае сабе волю: пстрыкае дзюбай па „пілоце” і глядзіць праграмы. На розных мовах, дарэчы. А днём паказваюць шмат адукацыйных праграм. А вы пытаецеся, адкуль малады грак столькі ведае аб свеце!.. Ну, праўда, не ўсё варта ў телевізары глядзець таксама і маладым гракам.

– Можа, не пры Гражынцы? Га, мама? – Гражынчына мама намякнула сваёй маме на непедагагічнасць бабуліных папрокаў.

Грак моўчкі жаваў скарынку. Не, не ўдасца палагодзіць справу?! Быццам бы і нічога такога – хлеб. Калі жывеш разам

з людзьмі, трэба, так сказаць, каркаць так, як і яны. А адазвіся – быццам бы і не чулі.

– Я жыву і жую! – раптам сказаў Грак, каўтануў камячок разжаванага да слодычы хлеба і аж страпянуўся: яму ўдалося, як ніколі раней выдатна сказаць „ж”. – Жаба, жавачка, жыта, жоўты! ГраЖ-Ж-Ж-Жына! Р-р-ратунку!

Гражынка, якая ўжо закідала заплечнік з падручнікамі на спіну, вярнулася да стала.

– Прабачце, я не слухала вашай размовы.

– Мы так... – бабуля глянула на дачку і ўнучку. – Мы пачалі так пра... Я наракала, што хлеб марнуецца. Твая мама зашмат яго купляе. І грошай шкада.

– А мы з Грачыкам яго з’ямо да крышачкі, бабуля. І ўсё добра будзе.

– І няма спр-р-р-равы! – падскочыў Грак на спінцы крэсла. І не мог ужо дачакацца, калі ўсе пойдуць па сваіх справах. Праз момант у тэліку пачыналася праграма пра журавоў.

## Спадар Кот



Грак сядзеў на падваконніку і глядзеў у акно. Фортачку забыліся зачыніць яшчэ зранку. На дварэ дзьмуў халодны вецер, заслабы, каб падняць мокрае, апалае парудзелае лісце, але пранізлівы, халодны. Грак глядзеў на птушак, якія ляталі паміж дрэвамі, скакалі па мураве, хадзілі па зямлі, шукаючы чаго з’есці. Ён азірнуўся – на ягонай табурэтцы стаяла місачка з зернем і крышынкамі варанага яйка, місачка з вадой, ляжаў кавалак хлеба. Нават есці адхацелася, жывот поўны... Вецер на вуліцы раздуваў пёры птахаў – варон, галак, вераб’ёў ды галубоў, ставіў іх старчма, запыняў на паўдарозе да рэдкай здабычы...

– Ну, ляці ж, – з-за шыбы азваўся шэры кот спадар Шадар. Шадар жыў у суседзяў і з Граком бачыліся яны толькі праз шыбу.

– А ты мяне не зловіш?

– Усіх вас не пераловіш! – пасміхнуўся пад вусамі Шадар.

– Ну, выходзь, хоць паразмаўляем. З імі не пагаворыш, уцякаюць, маюць свой занятак. На волі пабыў бы. Вернешся праз фортку. А можа я да цябе ўскараскаюся?

Кінуў Грак вокам на гадзіннік: неўзабаве прыедзе са школы Гражынка... Холадна!.. Дык няхай хоць спадар Шадар зойдзе... Вылятаць не хочацца ў такую зябу на волю...

– За кампанію цыган павесіўся! – паківаў дзюбай Грак. – Ускоквай! Ды толькі на талковую, на дыпламатычным узроўні размову. Так, як паміж намі, гракамі ды катамі. І пачастунак, га?

Спадар Шадар узлез на бярозу, дробным крокам па доўгай галіне, што блізка звісала да акна, ссунуўся да фортачкі і ўслізнуў у хату. Пац! – зваліўся на падваконнік побач з Гракам.

– Ну, як спрытны ты, Шадар?

– А яшчэ буду спрытнейшы! – ашчэрыў свае снежна-белыя зубы кот. – Вось ты, як добры дурань, упусціў мяне дахаты! Няма сантыментаў у палітыцы!

Грак ледзь вырваўся з-пад кашэчых кіпцюроў. І ў той момант адчыніліся дзверы – гэта вярнулася са школы Гражынка.

– Як тут Шадар апынуўся?

– У госці прыйшоў! – ледзь аддыхаўшыся, дыпламатычна адказаў Грак.

## Спосаб на веды

– Не магу ўжо вытрымаць, як мяне Маня цягае да дошкі на кожнай матэматыцы, – заенчала Гражынка над сшыткам і адсунула яго ад сябе як найдалей, аж у цень на пісьмовым стале, за круг святла начной лямпы. Было ўжо позна, усе спалі, а яна спрабавала рашаць задачы.

– Гэта ж зусім простыя задачкі, – заглянуў у сшытак Грак. – А ў сшытку практыкаванняў – дык зусім як для невукаў...

– Хоць ты мяне не дабівай! – ускрыкнула Гражынка. – Справа тут не ў задачах, а ў несправядлівасці. Як падумаю пра Маню, то аж галава пачынае балець. А на ўроку цёмна мне перад вачамі робіцца. А яна ўсё мяне выклікае да дошкі,

і толькі чакае, каб я памылілася. Яхідна смяецца: „Не ве-е-е-едаеш! Памылілася! А вось табе палка!” Над іншымі, над сваімі ўлюбёнцамі, над Элкай, Іркай, так не здзекуецца... Калі нават не ведаюць чагосьці, то ім палкі не паставіць.

– Супакойся, Гражынка, бо зусім захварэеш. Замест таго, каб выспацца, гарбееш тут над кніжкай... Пакладзі яе пад падушку, веды ноччу ўвойдуць у галаву, устанеш у шэсць, пераглянеш... А я падумаю, што тут з тою вашай Маняй зрабіць. Яна, здаецца, такая вопытная настаўніца, столькі год працуе ў школе...

– Цікава, як тыя веды галаву прасякнуць! – горка ўсміхнулася Гражынка. – Праўда, такі спосаб прымянялі калісьці мае мама і тата...

Раніцай Гражынка, за  гадзіну да ад’езду школьнага аўтобуса, хутка рашыла ўсе задачы. Хацела бегчы, ды Грак не пусціў:

– А сняданак? Матэматыка на другім ўроку. А галава баліць, бо ж не еўшы. Цёмна ад таго табе ў вачах робіцца.

– Цікава, што зрабіў Грак, гэты мой чарадзей, нашай Мані, – думала Гражынка, гледзячы на настаўніцу на ўроку матэматыкі. – Нейкая яна сёння мілая, ветлівая, і... прыгожая.

„Ты мяне над крыніцаю называў чараўніцаю...” – ціхенька мармытала матэматычка, выводзячы ў дзённіках адну за другой пяцёркі.

## Стань на галаве!

– Выхавацелька сказала на класным спатканні, што ты неактыўная на ўроках, – мама хуценька зняла паліто, спяшаючыся ўсесціся за сваё займальнае чытанне.

Грак падскочыў на сухой галіне, якую тата спецыяльна для яго выгоды прычапіў да сцяны каля дзвярэй. Галіна  спачатку была прыбіта  да паліцы каля тэлефона, ды Грак сваімі каментарамі патрапляў збіваць з панталыку ці не кожнага з суразмоўцаў. Гэта выразна псавала імідж усяе сям’і. І вось цяпер  Грак ужо не мог, зручна рассеўшыся пры апараце, насмешнічаць: „Ёсць, ёсць, але хай у вас не будзе надзеі, што

падыдзе да тэлефона”...

– Ды як яе актывізаваць? – прагаварыў Грак у вуха маме, што якраз ссоўвала халяўкі ботаў. – Не ўключыш жа Гражынку ў электраток ці не дадасі акумулятараў...

– Не раві мне ў вуха! – узлавалася мама. Зусім не зразумела Гракавага прыколу. Хіба нават і не разабралася, што птах ёй прамовіў-пракаркаў.

„Я ў тваім узросце...” – працытаваў далей маміны словы Грак. І гэта мама пачула!

– Дурны Грачыска! – узлавалася яна. – Паўтарае, бы той папугай!

Пакрыўджаны параўнаннем з папугаем, Грак пераляцеў на кухню, дзе бубуля чысціла бульбу на абед і паўтарыў над бабуліным вухам: „Я ў тваім узросце!..”

Бабуля махнула анучкай:

– Ты што тут кепікі строіш, абрыдлы птаху! Ці я не маю права так сказаць сваёй дачцэ? Будзеш у маім узросце, зведаеш, як адчуваюць сябе, калі цябе родныя дзеці не слухаюць!

– Бачыла, чула?.. – Грак сеў Гражынцы на плячук.

– Ну-у-у! Мама, у мяне ж ацэнкі нядрэнныя. Тая тройка па фізкультуры толькі... Не хацела я ставаць на галаве. І ўсё. Не буду ставаць на галаве толькі таму, што гэтак загадаў пан Сцяпан!

– І маеш рацыю! – пагадзіўся Грак, уявіўшы, як сілай яго ставяць дзюбай уніз. – А што з той... актыўнасцю?

– Ну, а што з той актыўнасцю? – паўтарыла мама Гракавае пытанне.

– Пасядзела б у школе ад цямна да цямна, то была б і ты вельмі актыўная... – уздыхнула Гражынка.

## Змяніць хлопца?

– Не ведаю, што рабіць з гэтым Радзікам, – прызналася Гражынка, нібы сабе самой, а папраўдзе Граку, які заглядаў з пляча дзяўчынкі на здымак, у які яна ўзіралася.

– А каторы гэта? – на здымку быў увесь пяты клас.

– А вось гэты, – паднесла Гражынка здымак бліжэй Граку пад дзюбу.

– Гэты? Ты яго ўсяго пальцам накрыла! – Грак аж страпянуўся ад цікаўнасці.

– Магла б прынесці больш выразны.

На здымку ў першым радзе, на шэрым канцы, сядзеў таўставаценькі мілавідны хлопчык у белым шведрыку. Іншыя дзеці апрануліся страката, на блузах віднелі разнамоўныя надпісы, часткова Граку незразумелыя. Нават Гражынка была ў моднай блузцы з рэкламай нейкага віду спорту.

– Вам шмат плацяць за рэкламу? – спытаўся Грак. – Выглядаеце ўсе як плот на стадыёне, вочы разбягаюцца. Дарам жа так не абвешваюцца людзі... А гэты твой Радзік, бедны, увесь у беленькім. Цяжка не запэцкацца. Ты прыязджаеш са школы, бывае, як папялушка. Мабыць, для здымка так светла-святочна апрануўся гэты хлопчык?

– А вось і не! Ён заўжды такі беленькі. І як нежывы на перапынках стаіць пад сцяной... Такі акуратненькі.

– Што ж ты хочаш з ім рабіць, пытаюся? Можаш толькі прыклад узяць, каб менш мыцця дома было. Я ўсё ў чорным лятаю, а месцамі пэцкаюся. Спадар Шадар хоць вымываецца лапкай, вылізваецца. І мне прыдалося б не толькі прачэсвацца дзюбай, хочацца пакупацца ў чыстым пясочку...

– Вось, як мне гэтага Радзіка разварушыць. І падысці неяк баюся, а ён усё нейкі пераляканы на мяне спазірае...

– І так ужо пяты год разважаеш, як падчапіць аднакласніка?

– Ды не, ён нядаўна прыехаў у мястэчка з бацькамі. Першы год з намі вучыцца. Невядома, чым ён цікавіцца... Нейкі асалавелы сядзіць на ўроках...

– Можа, хворы? А можа такі зацюканы? Апрануць у белае чалавека, і не дрыгнеш!.. А можа ён цікавіцца арніталогіяй? Раскажы яму пра мяне, прывядзі дахаты... Разам разварушым хлопца...

– Ён не даязджае, у мястэчку жыве...

– Эх, жыццё! – клацнуў дзюбаком Грак. – Адны трагедыі.

## Цацкі

Грак перажываў: будзе ў хаце ёлка. Сапраўдная. Першай не памятаў – тата прынёс з гарышча штучны стракач,üpаначаплялі на яго каляровых шарыкаў ды банцікаў – ёлка была сучасная, як у модных часопісах. Гэта была маміна задума, каб не марнаваць жывых елачак. Жывая елачка адразу пасля Каляд памрэ, казала, высахне і ніколі не стане вялікай ялінай у лесе. Ды ў горадзе паявіліся елкі ў гаршках, з карэннем, якія можна, адсвяткаваўшы, пасадзіць у агародзе, і будуць яны расці на славу. Тата прывёз не вельмі вялікую елку з Беластока – прадавалі іх пад цэнтральным магазінам, разам з ссечанымі дрэўцамі, сярод якіх траплялiся і такія – аж пад столь. А жывая елачка была меншая за Гражынку.

– Але ж апранаць яе лёгка будзе, – суцешыў Грак Гражынку. – І зноў тыя банцікі ды шарыкі? А хоць цукеркі павесіце?.. І пернічкі...

Бабуля пакараскалася на гарышча і знесла адтуль вялікую кужэльную торбу – мяшок. Мяшок быў сапраўды вялікі-вялікі, але, відаць, лёгкі – бабуля не стамілася. Ціхенька паставіла ношу на падлогу.

– Тут цацкі на тваю ёлачку, – сказала з усмешкай Гражынцы.

Грак узяўся развязваць дзюбай тугую завязку, памагаючы сабе лапкамі. У мяшку штосьці хрумсцела, шалясцела, пазвоньвала.

– Ці ўсё гэта змесціцца на такую ёлачку?

Прыйшлося памагаць бабулі – Грак заблытаў вяроўку ў сапраўдны гордзіеў вузел.

У мяшку ляжалі папяровыя ланцужкі, саламяныя лялькі ды павучкі, мноства старэнькіх шкляных шарыкаў, Дзедаў Марозаў ды анёлкаў. Былі яны не такія бліскучыя ды вялікія, як сучасныя, але якія адмысловыя! З цьмянага шкла, са штучным сняжком, паліваныя у кропкі як мухаморыкі, з дзірачкамі -зоркамі ў таямнічым шкляным нутры... Грак першы кінуўся вешаць гэтыя цуды на галінкі.

– І адкуль жа гэта ўсё? – пляснула рукамі Гражынка. – Шнарыла я па гарышчы столькі гадоў, а не заўважыла мяшка. Чаму мы гэта раней на ёлку не вешалі?

– А ўсяму гэтаму больш за паўстагоддзя! – паківала галавой бабуля. – Неяк саромелася... Старызна ж такая...

## Выгнаць хваробу



– А хату ўсё ж трэба праветрыць, – расчыніла мама фортачку ў кухні. – І грып з хаты выгнаць!

– Ой, ой, холад, – залямантавала бабуля. – Гражынка ў пакоі хворая ляжыць, яшчэ замерзне. Зачыняй!

Пакуль мама з бабуляй мітусіліся каля кухоннага акна, Грак лятаў туды-сюды, ад кухонных дзвярэй да дзвярэй, расчыненых у Гражынчын пакойчык.

– Ты, ветрагоне, робіш яшчэ большы вецер! – замахнулася на Грака бабуля анучкай. Мама ўрэшце зачыніла фортачку, не заўважыўшы, што на кухонную падлогу зваліўся Шадар, які толькі і чакаў, каб зайсці да суседзяў. Гаспадары Шадара паехалі на свята ў госці, пакінуўшы яму ў летняй кухні поўную міску мёрзлых хрупак. А цёплую страву ён сам меў сабе злавіць. І спаць мусіў ён у той жа халоднай летняй кухні! – на дзверы хаты начапілі агромністы замок, каб палохаў злодзеяў. Суседзі наказалі Гражынчынай сям'і сачыць за пустым домам, а пра ката і не ўспомнілі.

Шадар пачакаў пад сталом, пакуль мама і бабуля выйдуць з хаты.

– Нікога няма дома? – выглянуў з-пад стала кот. Ускочыў на стол, адкусіў ражок ад поліэтыленавага мяшэчка з малаком.

– А я дык што? І Гражынка там ляжыць хворая. Ты што малако разліваеш!

– Не бойся, будзе чыста, усё зліжу. Так піць хочацца. І цёплага паесці! Дзе ж цяпер цёплае зловіш! Зіма! Ну, сумлення мае Казлы не маюць!

Граку здалося, што Шадар глядзіць на яго надта ж прагна.

– А ў нас у хаце птушыны грып! – рашыўся ён напалохаць ката.

– А што, з цябе перайшоў на Гражынку? Ну, дык птушыны, не каціны ж ён.

Грак насупіўся, сеў на дубалісты фікус, што стаяў каля акна. Шадар хутка дачыста злізаў літр малака, якое расцяклося было па падлозе. А на двары проста свету не відаць – такая завіруха разгулялася.

– Вы застаньцеся ў нас, спадар Шадар, – прытэпала на кухню на слабых нагах Гражынка ў цёплай паласатай піжаме, – пакуль вашы гаспадары не вернуцца. Як жа выгнаць ката на такую непагоду! А ты, Грак, не бойся...

– Ёсць такая хвароба, як каціны грып, – прыгадаў Грак ветэрынарную тэлеперадачу, сваю ўлюбёную, і рассеўся на самай верхавіне фікусавага дрэўца.

## Са свету

Пад „стары” Новы год да Гражынчынага таты завітаў сябра па арміі. Жанчыны ведаць не ведаюць, што гэта такое – быць сябрам па арміі! Грак таксама не ведаў, хоць разумеў, што такое можа быць – мужчынскае сяброўства. Маладыя хлопцы ідуць у армію па прызыву, там становяцца сапраўднымі мужчынамі. Тата прынёс баявік з пазычальні фільмаў, увапхнуў яго быў у відзік, ды не пераканаў нікога ў патрэбе паглядзець „як у морду б’юць” (словы бабулі). Дык Грак глядзеў яго сам днём хвілін дваццаць. „От, бабскае ў мяне выхаванне, не падабаецца мне такое, – падумаў Грак. – Калі б жанчыны кіравалі светам, войнаў не было б...”

Татаў сябра прыехаў у госці на пару дзён. Навёз падарункаў – шукаў па свеце шчасця пару гадоў. Гражынцы прывёз ляльку – не ведаў, відаць, што гэта ўжо вялікая дзяўчынка?! Тату дастаўся пісталет на халастыя патроны, маме – тайландская сукенка, добра, што мадэль вельмі шырокая, бо ад часу, калі тата і мама „хадзілі”, мама моцна паправілася. А бабулю дзядзька Федзя ашчаслівіў хусткай з сапраўднага кітайскага шоўку. Грак доўга таптаўся на парэнчы фатэля і ўрэшце азваўся:

– Дзядзька Федзя, а мне што Вы прывезлі?



– Вы што, так спраўна птушку гаварыць навучылі? – усцешыўся госць і пстрыкнуў Грака пад дзюбай.

– Ну, якое нахабства! – абурыўся Грак. – Усяго вас там у арміі панавучвалі! Бачыў я ў фільме! Граку ў дзюбу даць!

– Ой, прашу прабачэння! Гэта такія чулыя мужчынскія жэсты... А, праўда, сёння ж шчодры вечар! – схамянуўся госць. – Сёння ж нават жывёлы гавораць.

– Нават жывёлы! – надзьмуўся Грак і рашыў быць не менш нахабным. – Ну, што там мне ў падарунак дастанецца?

Усе засмяяліся. Дзядзька Федзя рад не рад расчыніў свой чамадан.

– Вось, вось гэта! – Граку аж цёпла стала ў грудзях. На лакавай талерцы красавалася птушка. Такую прыгажуню толькі ў сне ўбачыць можна...

– Райская птушка. Прывёз я яе з Папуі-Новай Гвінеі. Калі ласка, яна – твая.

Мама павесіла талерку на сцяне каля Гракавай галіны.

– А, мая ты... Папуйка! – Грак ужо і не слухаў успамінаў татавага сябра.

## Маскарад

– Цяпер нават на дыскатэку не пойдзеш неапрануты! – лямантавала Гражынка, перакідаючы адзенне ў сваёй частцы шафы. Грак паварушыў усімі сваімі пёрамі, бы чалавек, узняўшы бровы ў здзіўленні: як гэта так – неапрануты? Выйсці ж трэба на вуліцу, на холад, а ў людзей няма нязменнага ўласнага адзення, такога зручнага, як пёры ці поўсць. Людзі мусяць апранаць адзенне, кожны раз іншае, і нават яго на сабе не чысцяць, а, папэцканае, укідаюць у пральную машыну ці мыюць рукамі ў вадзе. Такі вось Грак прычэшацца дзюбай, павыбірае, што не трэба між пёрак, кожнае выгладзіць – і Грак як грак, прыгожы, чысты, шыкоўны. А Гражынка ўжо ж перабольшвае! І так адзення мае найбольш у хаце, ды і маміна падбірае. Праўда, толькі боты ды шапачкі, бо ў мамі-

най вопратцы згубілася б. А ад бабулі пазычае хустачкі ды шалікі, бывае, нават і не пытаецца. А ў прабабулінай ваўнянай хустцы-шаліноўцы таксама хадзіла...

– Ну што, не маеш зноўку што надзець? – азвалася бабуля. – Гэта ж толькі карнавальная дыскатэка. Як успомню карнавальныя балі маёй маладосці!..

– Вось! Як жа ж мне апрануцца на баль-маскарад!

– Надзень маску! – Граку прыпомнілася, што на шафе ляжыць закінутая маска Лісіцы-Хітрыцы, ужо пакрытая пылам, бо на шафу цяжка ўскараскацца; толькі ён, адзіны ў хаце, можа свабодна хадзіць па шафе.

– Я ўжо не дзіцятка! – абурылася Гражынка.

– Усе паненкі, пэўна, хочуць быць прынцэсамі ды каралеўнамі, а хлопцы – Зора, каўбоямі, Бэтмэнамі... – паківала галавой мама. – Ну, ніякай фантазіі.

– Я хачу быць... прыгожая, чароўная, каб стаць каралевай балю.

– Чароўнай? Дык пераапраніся ў... чараўніцу! – усцешыўся Грак. – За Бабу-Ягу! Трэба вялікі нос кручком начапіць... Ну, прынамсі, такі, як мая дзюбка...

– Вось табе і... чароўнасць, вось табе і краса! – засмяялася бабуля. – Станеш, несумненна, каралевай балю.

– Нос як нос... – падумаў Грак. – А можа вазьмі мяне. Буду сядзець у цябе на плячы...

– Добра, вазьму. Сядзі толькі і... маўчы!

– Гэтага абяцаць табе не магу! – Грак зноў варухнуў пер’ем па ўсім гракавым целе.

## Рыжая

Грак першы раз аказаўся ў школе. Праўда, не на ўроках, а меў быць у спартыўнай зале, дзе праводзілася карнавальная дыскатэка, адкуль далятала гучная музыка. І папраўдзе быў ён пакуль што ў гардэробе, яшчэ сядзеў ў Гражынчынай торбачцы. Скураную сумку падарыла ўнучцы бабуля. Грак стаяў на дне, сценкі торбачкі ціснулі яму на бакі, а дыхаў ён праз расшпілены верх, закончаны залатой бубкай, якая, калі сціс-

нуць пашчу сумкі, рабіла „клік!” і сашчамляла абодва яго бакі. Зусім як сумачка адной незямной жанчыны з аднаго фільма, з якой выскоквала незямное стварэнне – Грак бачыў той фільм і якраз тое найбольш з усяго яму спадабалася. Тут перашкаджала яму ж адно – збоку, засунуты ў другую кішэньку, электрамагнітна пульсаваў Гражынчын мабільнік. Добра, што хоць маўчаў ён, але хвалі Грак адчуваў вельмі моцна.

Гражынка папраўляла свой строй маладой чараўніцы-варажбіткі. Цыганская спадніца з квяцістай вялікай хусткі, на чырвонай блузцы некалькі вязак караляў, на распушчаных кудзерках – жоўтая хустачка, павязаная назад, у вушах срэбныя колы...

– Знакаміта! – Грак вылез з сумкі, сеў на залатую бубку і залюбаваўся сяброўкай.

– Ты ціха сядзі! – замахала рукамі дзяўчынка. – Залазь назад.

– Я не прыехаў сюды, каб у торбе сядзець, – пакрыўдзіўся Грак. – Я ж – элемент твайго касцюма, так сказаць.

– Прыйдзе Косця, пакрыўдзіць цябе яшчэ... Чаго ж я цябе ўзяла, зусім не падумала пра яго...

– А што, такі благі той Косця? Птушак крыўдзіць?

– Можа і не такі благі, ды бяздумны. Махае рукамі. Да чаго дакранецца, усё псуецца.

– А можа, гэта выпадкова? Бывае ж такое і сярод птушак!

– Рыжая, рыжая ведзьма! – у гардэроб убег беленькі хлопчык.

– Ты гэтатак на маю Гражынку?! – Грак учаперыўся яму ў светлыя валасы. – Я на баль сюды прыехаў, і такое чую?!

Косця з лямантам вырваўся з гардэробу. Грак ускочыў на залатую бубку:

– Ну, справа аформлена. Ідзем гуляць. Трэба выхоўваць маладых!

## На баль!

Настрой у Гражынкі пачаў псавацца. Як гэты баль пачаўся! Раз, што на дварэ стала страшэнна холадна (цікава, ці та-

таў сябра прыедзе ў адпаведны час, каб забраць на сваёй машыне дзяўчат дадому), два – Косця пакрыўдзіў яе, чапляючыся да колеру валасоў. Гражынчына мама называла іх „тыцыянскімі”. Каб мець такі адмысловы колер на галаве, дарослыя жанчыны купляюць дарагія фарбы, і не проста патрапіць у адценне. Мастакі Рэнесансу малявалі такія валасы найвялікшым сваім прыгажуням на карцінах. „Рыжая!” Ды, якая б Гражынка ні была, Косця заўжды знайшоў бы прычэпку. Да кожнага ды кожнае Косця чапляецца. І ніхто яго не любіць. А Косцю яшчэ больш прыкра, злуецца, і з яшчэ большай заядласцю шкодзіць. І перакідаюць яго з класа ў клас. Цяпер трапіў у Гражынчын. Вучыцца, праўда, нядрэнна. Ды выпендрош яго трымаецца нават на ўроках. Раптам устае, ходзіць па класе...

Гражынка села на спартыўную лавачку: „Нікуды не пайду!”

– Як жа гэта так? Прыехалі на баль? – Прыехалі, – замахаў правым крылом Грак. – Выглядаеш цудоўна ў гэтым строі. Маем шанц стаць каралямі дыскатэкі. Збірайся! І не хавай мяне ў торбу! Хай пакажацца мне гэты... Косця! Хай зачэпіць якую дзяўчынку! Дам яму ў вока!

– Хопіць! Не скандаль. А то мяне яшчэ арыштуюць за тое, што прынесла ў школу небяспечную... цацку! – Гражынка горда ўзняла ўпрыгожаную квяцістай хусткай галаву, страсянула кудзеркамі. – Ідзем!

– Ідзем, каб выйграць! – крыкнуў Грак, і раптам сам закрыў крыламі свае малыя вушкі: гэтак грымнула музыка праз адчыненыя дзверы спартыўнай залы. Пачыналася дыскатэка!



Бліскалі каляровыя плямы, зяхаў як маланка, біў па вачах белы струмень святла, усё мільгацела, дрыгала... Грак, ушчаперыўшыся за матузкі Гражынчынай хусткі, заплюшчыў з усяе моцы вочы. „Ой, хутчэй у сумачку!”

Раптам музыка сціхла. Запалілі белае святло. На падлозе ляжаў непрытомны Косця. Прыехала хуткая дапамога.

– Я ж казаў, што ён хворы, – прабубніў Грак з сумкі, вызіраючы адным вокам. – Падучая хвароба ад манатоннага пульсуючага святла. А ў яго, пэўна, тое ADHD, плюс кінетычная

неадэкватнасць правага і левага паўшар'я. Ну, не буду тут пераборшчваць з навуковымі ведамі! – і Грак зашчыкнуў бубку сумкі над сваёю галавою.

## Турботы

На дварэ мароз. Увесь час у хаце гудзе тэлевізар. Сум б'е з экрана – паказваюць гора, якое напаткала людзей у Катавіцах. На міжнароднай выстаўцы паштовых галубоў над будынкам кірмашу заваліўся пад снегам дах, загінула шмат людзей. Яшчэ большае гора – сярод іх была ўнучка бабулінага брата Яўгена. Прыехала яна ў Катавіцы на кірмаш службова, як заатэхнік. Яна прыходзіцца Гражынцы траюраднай сястрой, хоць старэйшая за яе больш, чым у два разы. Граку яна знаёмая з Гражынчыных аповедаў – ніхто, як Марыся, не ведаў больш пра жыццё жывёл і птушак!

– Толькі што званіла дадому з мабільніка, вярнулася ў залу за пару хвілін да бяды, – ломіць рукі бабуля. – От, лёс такі.

– Мама, не трэба ўжо больш пра гэта. Не трэба і гаварыць. І пры Гражынцы не гаварыце, яна так перажывае. Дзяцей трэба захоўваць ад благіх вестак. Яшчэ наслухаюцца ды набачацца за сваё жыццё. Помніш, як у „Зорцы" надрукавалі калісьці здымак з паховін дзіцяткі, як некаторыя чытачы абурыліся. І мелі, мабыць, рацыю. Дзецям трэба адно пра радаснае казаць...

І праўда, хавалі б гэтую страшную навіну перад Гражынкай, як заўжды, калі б гэта не яна першая ўзяла трубку, калі званіў дзядзька Віктар, мамін дваюрадны брат, Марысін тата.

– Лёс такі... – Грак таптаўся па пісьмовым стале, праходжваўся па ім уздоўж ды ўпоперак, а Гражынка моўчкі сядзела над разгорнутай кнігай. – І каб мяне не падабралі былі з зямлі, дык і мяне не было б.

– Птушыны ў цябе розум! – бабуля пачула Гракавыя разважанні; сядзела ў мяккім крэсле каля стала, быццам неприсутная. – Як можаш меркаваць па сабе...

– А ты, бабуля, спыталася, што з галубамі? Тымі, што на выстаўцы былі разам з людзьмі? Чэмпіёны... Усе ў клетках,

ніхто вырвацца на волю не змог.

Бабулі здалося, што не Грак гаворыць гэта. Як быццам сама такая думка ў галаву прыйшла. Бо не заўжды разумее бабуля, што Грак гаворыць. А, казала, калісьці разумела мову птушак, як усе дзеці.

## Атрамант і мастацтва

Сядзела Гражынка над сшыткам, сядзела і злавалася. Зноўку загадала ёй пані Маня перапісваць задачу. Не таму, што кепска яе рашыла, а таму, што напісала неахайна. Ледзь распазнаць, дзе два ці пяць, дзе дзевяць ці чатыры. Няма ў школе чыстапісання, як калісьці, пры бабулі ці маме – тады пісалі атрамантам ды ручкамі, а атрамант чэрпалі з чарніліц, якія сядзелі ў дзірцы ў школьнай парце. Ды і тыя парты былі адмысловыя, з нахіленымі пультамі. Юны чалавек не горбіўся, добра бачыў... Гражынка пісала ў першых класах алоўкам, пасля, як усе дзеці, узялася пісаць шарыкавым пяром – даўгапісам. А піша ён хутка, не дарма называюць яго яшчэ „самапіскай”. Але не выведзеш прыгожа літару, абавязкова мусіць яна выбегчы за лінейку... І кожная літара ў свой бок хіліцца, „хвосцік” раз мае доўгі ды круты, раз кароткі ды просты, „дашкі” валяцца, „палачкі” атрымліваюцца нейкія сукаватыя... Яшчэ калі піша Гражынка заданне па мове ці літаратуры, дык настаўніца можа неяк прачытаць, але матэматычцы ўжо абрыдла дадумвацца: ці правільна рашыла задачу дзяўчынка. Вось і маеш – „палка”! За сшытак. Хоць вынік задачы – правільны!

– Вось табе аўтаручка! – бабуля паклала „вечнае пяро” ўнучцы на стол. – „Паркер”, не жартачкі!

– І так будзе пісаць як, даруйце, курыца кіпцюром! – насупіўся Грак. Найбольш падабалася яму, калі Гражынка кляпала ў клавіятуру старога камп’ютэра. Шкада, што нельга ўсіх хатніх прац рабіць на камп’ютэры. Сшытак ёсць сшытак, няма школы без сшытка...

Гражынка набрала з чарнільніцы атраманту ў ручку – ейны „паркер” меў чарпалачку са „свёрлам”. Ужо тое начарпан-

не цёмна-сіняга атраманту было вялікай прыемнасцю. Звінціла ручку, выцерла дзюбку пяра, дастала ліст паперы і стала выводзіць літаркі.

– Прыгожа... – Граку аж бельма найшло на вочы, калі сачыў за сінімі рыскамі. – Ой!..

Шпацыруючы па стале, зачапіўся за незавінчаную да канца чарніліцу. На паперу хлюпнуў атрамант. На лісце красавалася сіняя пляма.

– А вось, што цяпер будзе!? – Грак пабег у нервах па заплямленым лісце і азірнуўся на свае слядкі: – О... сучаснае мастацтва!

## Валянцінкі

Пасля апошніх Валянцінак Гражынка была ціхая як ніколі. У школу пайшла была прыгожа апранутая, рыхтавалася, што атрымае прынамсі чытыры „валянцінкі”, а прынесла толькі адну і не ад таго, ад каго спадзявалася. Да таго ж тое прызнанне ў прыязнасці пачуццяў было не вельмі прыгожае. Хтосьці крывавата вывеў на лісточку цвёрдай паперы: „Ты мая Валянцінка”, побач намаляваў няроўнае сэрцайка чырвоным фламастэрам...

– Ну і што, што яно крывое... – Грак, узіраючыся бачком у няўдалы малюнак, амаль не прылёг на картку. – Папраўдзе, дык сэрца несіметрычнае, каморкі сэрца няроўныя. Агульна беручы, дык гэта сімвал такі. Кр-р, сэрцайка.

– Вось, сімвал. Мог бы той хтосьці хоць пастарацца. І мне было б прыемна, і дзяўчаты не смяяліся б...

– Смяяліся, пэўна, тыя, каму ніхто „валянцінкі” не прыслаў! – бабуля сама пасміхнулася пад носам, гледзячы на няўдалы твор чыйгосьці пачуцця да яе любае ўнучкі. – Можа, той хтосьці, хто гэта намаляваў, мастак незавялікі, але гэта, сапраўды, падарунак ад сэрца.

Схавала Гражынка картачку пад празрыстую вокладку сшытка па рэлігіі, накрыла зверху часопісам для дзяўчат. Робіць урокі, ды штораз крадком падымае часопіс за ражок.

– Можа і не так страшна гэта выглядае... Цікава, хто гэта

так намодзіў... Стараўся ж. Мабыць, мастак з яго нікудышні...

– Дай, я пачарую крышку, зараз і разведаю, хто такі адважыўся даць табе такую „валянцінку”... – Грак сцягнуў газету са сшытка на стол. – Крррр-рррр... адно заплюшчу вочы. Бачу... бачу... чую дух... нейкі хаос у мяне перад вачыма... сцэну бачу... светлавалосы хлопец... ой, у мяне нейкія, здаецца, нядобрыя асацыяцыі...

– Дык гэта Косця! – навожыў пёры Грак. – Гэта ён цябе рыжай ведзьмай назваў у карнавале!

– Вось бачыш, відаць, просіць прабачэння, – усміхнулася бабуля. – І так пастараўся!

– Не веру ў вашы чарадзействы! – замахала рукамі Гражынка. – Хоць, праўда, нейкі ён мілейшы зрабіўся для ўсіх...

– Гэта я, я яго правучыў! – залапатаў крыламі Грак і ўзляцеў аж пад столь.

## Творы

– Трэба пакінуць нейкі след па сабе! – Гражынка сядзела і ўзіралася праз акно на вераб’ёў, грамадка якіх мітусілася на сцежцы, выбіраючы са смецця штосьці паесці. Вочы Грака пайшлі следам за Гражынчынымі.

– Ага, праўда, што тыя вераб’і! Вылупяцца з яйка, навучацца лятаць, зносяць яйкі, выседжваюць. Гадуюцца, быццам дыхаюць. А што ад іх застаецца? Адно пёркі на ветры... – пафіласофску стаў раздумваць Грак уголас. – А што, можа, маюць кніжку напісаць пра сваё жыццё? Кіпцікам па пяску!

– От, разумнік, навучыўся клікаць на камп’ютэры і здаецца яму, што кніжку сам можа напісаць. Дык што, Грак, пісацьмеш? Першы том: „Грак Потэр і паўнакроўны кацiска спадар Шадар”?

Грак дзюбануў у люстэрка, зірнуўшы на свой раскрыты рот. Праўда, клікі клікаць навучыўся, але з мышкай цяжкавата – кіпцi неяк саслізгваюць, няма як яе ўзяць у далонь: лапка ў Грака худзенькая. Спрабаваў пару сваіх тэкстаў убіць у тэкст дзяўчынкі, калі пакідала на хвілю ўключаны камп’ютэр, дык, вядома, зараз жа яна ліквідавала тую бязглуздзіцу,

што з’яўлялася ў яе радках як бы невядома адкуль.

– А я і напісаў, пад мамінай справаздачай. Свае роздумы. Дыскетку мама забрала на працу, але можаш прачытаць на цвёрдым дыску, – Граку аж цёпла зрабілася пад пёрамі на грудзях – вось, як-ніяк, а разбіраецца ў камп’ютэрных справах, падвучыўшыся з Гражынкай, якая ўжо другі год вывучае інфарматыку.

Пад мамінымі падлікамі ды рубрыкамі, якія яна доўга набірала і правярала пару дзён, з’явіўся Гракаў твор:

„Мае роздумы над лёгкасцю быту ў паветры. Напісаў Грак. У паветры лятаюць асобы, якія маюць шанц лятаць. Патрэбныя для таго крылы, цёплае апярэнне, лёгкія косці і ўяўленне, што можна лятаць. Лятаюць яшчэ матылі, мухі, стракозы ды самалёты. Калі ляціш, адчуваеш волю і радасць. Пакуль канецццццц”.

– Які сорам, які смех! Дырэктар ледзь не лопнуў, убачыўшы маю справаздачу аб нашым прадпрыемстве!

– Мабыць, нялётны ён абсалютна! – прабурчаў у пёры Грак.

## Прыляцелі!



– Гракі прыляцелі! – выглянула праз акно бабуля. – Цікава, адкуль.

– Чужыя? – Грак таптаўся на падваконніку, паглядаючы на грамадкі чорных з металічным бляскам сваіх пабрацімаў. – З халаднейшага месца ў цяплейшае... нармальная справа, што выбіраецца лепшае.

Сярод знаёмых гракоў, варон ды галак убачыў чужых птушак. Нам здаецца, мабыць, што яны ўсе аднолькавыя, нават варону ад галкі цяжка адрозніць, а папраўдзе кожная птушка – іншая.

– Ты чаго там сапеш на акне? – пацікавілася Гражынка, адклаўшы часопіс.

– Чужыя прыляцелі.

– Ну дык што? Клапоцішся, што есці ўсім не стане? Неў-

забаве вясна, сыдзе снег, можна будзе капацца ў зямлі...

– А цяпер? Ты сама расказвала пра аб’яву, каб не падкармлівалі дзікіх птушак. Якія яны „дзікія”, гракі! Ці ж я дзікі?..

– Пералётныя птушкі... Таго... Гэтага. Ты ж сам ведаеш, што хворыя яны...

– Кожны можа захварэць... Прастыць... Праляцела б ты сотні ці тысячы кіламетраў... Да сябе на радзіму... А тут цябе не ўпусцілі б, калі б у цябе пашпарт быў. Баяцца. Хаваюцца. Хатніх птушак знішчаюць...

– Гэта не жарты, Грак. Ты сядзіш у хаце, дык не перайма́йся, – бабуля чулліва пагладзіла Грака па пёрах. – Да нас яшчэ птушыны грып не дайшоў.

– А як я магу глядзець спакойна на... крэматорыі!

Бабуля моўчкі патэпала на кухню, шоргаючы тапцямі. Так заўсёды, калі бабуля моцна расхвалюецца, снуе па хаце, а ейныя тапці цягнуцца за ёю як кільватэр.

Гражынка накрыла сваёй газетай каляровую татаву, у якую рэдка раней заглядала (тата верыць толькі „Палітыцы”). Каб Грак не ўбачыў. Там напісана, што будуць праводзіцца вучэнні як пазбегнуць птушынай хваробы.

Бабуля вынесла з кухні на панадворак вялікую місу цёплай кашы для птушак.

## Самапасам

Грак сядзеў сумны ўсянюткі дзень. Нават тэлевізара не хацелася ўключаць. Палятаць па хаце таксама не было ахвоты. Хадзіў пешшу ад кухні да Гражынчынага пакоіка, звесіўшы дзюбу. Абрыдла сядзець на падаконніку – зусім нецікава назіраць як птушкі, кожны паасобку ці ў пары, носяць саломінкі ды валоссе сабе на вясенні рамонт гнёздаў, або збіраюцца ў неспакойныя чародкі. Найбольш гарлапанілі-сеймікавалі вароны, гракі ды галкі. Раптам уздымаліся чорнай хмарай у неба, кружылі над дрэвамі ды хатамі, абсядалі чорнымі плямкамі аголеныя яшчэ дрэвы.

– Чаго яны там? – каркнуў Грак да спадара Шадара, які прысеў за акном. – І цябе даўно я на панадворку не бачыў!

– Не выпускалі мяне з хаты. Страшная справа, нават туалет мне паставілі ў сенях! Цьфу, хто гэта бачыў дома апаражняцца! Мне, вольнаму кату, закладваць лейцы! Яшчэ каб быў сабакам, дык тыя такі ўжо характар маюць, што скажаш, тое і зробяць, але... мне?! Палохаюць усіх птушыным грыпам. Ці ж пакваплюся на якую поскудзь?!

– Ушануй чужую смерць. Памерлы птах гэта табе ніякая не падла.

– Што нам, жывым, думаць пра такія справы! – Шадар плюнуў на лапу і стаў мыць пыску. – Галоўным чынам – трэба захоўваць гігіену. А ў цябе, Грак, няма дэпрэсіі? Як там твой апетыт? Кажуць, і несціся не хочацца?

– Ты пра што? – раскрычаўся Грак, затупатаў па падаконніку. – Якая дэпрэсія? Чый апетыт?! Ці я курка-нясушка, каб мне несціся хацелася ці не? Што ты тут мне ўнушаеш?

Грак у злосці аж дзеўбануў у шыбу.

– Скажу Гражынцы, што ты ходзіш самапасам! Хай пойдзе ды скажа тваім гаспадарам.

– Я ў іх толькі жыву, яны мне ніякае не панства, – зморшчыўся Шадар. – Схачу – пайду ў свет. Цьфу, якая абраза – на павадку хадзіць!

– Ты мне ўнушаеш, што я сваёй волі не маю?

– Дык вылеці на вуліцу.

Грак паглядзеў на пару варон, што сядзелі без справы на плоце. Жонка-варона была нейкая асалавелая. Муж неспакойна заглядаў ёй у дзюбу:

– Пакажы горла, скажы: кр-р-ра!

## У свет!

Гражынка ляжала на канапе, абапершыся локцямі аб вялікі геаграфічны атлас. Тоўстая кніга з лакіраванымі каляровымі лістамі вабіла яе не першы раз. На кожнай старонцы разліваюцца блакітныя воды – моры і акіяны, выкручваюцца тоненькія нітачкі рэк, шакаладна і аранжава выпукляюцца горы, зялёна раскідаюцца даліны... І меншыя кропачкі ці кубікі – гарады, мястэчкі, вёскі... Усё аплеценае павуцінай мерыдыянаў,

што збягаюцца на полюсах, і паралеляў, што апаясваюць увесь зямны шар. Гэты атлас – вельмі дакладны. Каб разабрацца ў блытаніне знакаў і колераў, трэба асвоіць, што значыць кожны знак. Цяпер Гражынка разглядала дзеючыя вулканы. А яны пазначаны былі і на сушы, і на... вадзе.

– Мне цікавейшы глобус, – Грак сядзеў на вяршку невялікага глобуса. Зямны шар каціўся з захаду на ўсход – Грак лапкай піхнуў яго і наша Зямля рушыла насуперак Сонцу. – Бач, я ўсё магу! Я рушыў Зямлю!

Гражынка паглядзела на Гракавы цуды з зямным шарыкам і працягнула далей свой пошук актыўных і астылых вулканаў.

– Паляцелася б... – уздыхнуў Грак і абмахнуў крылом упацелую каля носа дзюбу. – Ты паглядзі, ляціш сабе з тае Афрыкі, вось, з самога поўдня, скажам, а тут і Чырвонае мора, а тут і Чорнае... А чаму яны не чорнае ці чырвонае? Сінія моры, кар-р-ар...

– Тудою гракі не лятаюць, – Гражынка адгарнула сваю рудую грыўку з цёплага ілба. Цёпла! Вясна ідзе.

– Можна ўявіць, што я бусел. Або жаўрук. Шпачок. А і ты... ты... ластаўка. І вось ляціш, ляціш, амаль без сіл, пару тысяч кіламетраў... Тут прысядзеш, там, пачастуешся чым-небудзь у дарозе... Усюды цябе вітаюць... Вясну нясеш... Ляціш з далёкай краіны на радзіму... Або ў другі бок, каб свету пабачыць.

– Грак, хопіць. Адразу скажы, што хочацца табе вылецець на вуліцу. Хочаш, адчыню акно. Толькі не прастынь, – Гражынка ляпнула старонкамі атласа.

Грак аж ахнуў – спалохаўся гучнага пляску тоўстых бакоў кнігі. А, можа, спужаўся, што раптам вось так – возьме ды паляціць у тую сінь, і дарогі назад не знойдзе? Бо ці грак... бусел, жаваранак, шпак?..

## З даўніны

Прыйшоў ліст да бабулі. Дзіўная справа. Праўда, закідаюць лісты ў паштовую скрынку Гражынчынай сям'і, ды гэ-

та найчасцей толькі нейкія паведамленні з розных установ, бланкі аплат – за электрычнасць, за ваду, падаткі... Ну, яшчэ паштоўкі-адкрыткі – з нагоды розных свят, віншаванні да гадавін ды імянін. Усе лістуюцца праз Інтэрнэт, а найпрасцей – пазваніць па тэлефоне ці нават камп’ютэры. Нават бабуля звыклася з новай тэхнікай. А тут – ліст, у блакітным канверце, папярэшчаны маркамі – крыху нават пажоўклы. Адрас такі ж, імя бабулі таксама, ды прозвішча ейнае яшчэ дзявочае. І як прыгожа хтосьці напісаў адрас – літаркі выведзены атрамантам, адна ў адну роўненькія, крыху пахіленыя ў правы бок. Можна падумаць, што бабуля сама пісала сабе ліст – гэтак і яна прыгожа піша. Застаўся такі почырк па ўроках чыстапісання ў школе. Такімі ж літарамі выведзены бабуліны школьныя пасведчанні, па-польску і па-беларуску на абодвух баках ліста. Гэтак пісаў іх класны выхавацель. А гэты ліст напісаў бабулін сябра Толік з пачатковай школы. А выслаў ён гэты ліст не ўчора ці заўчора, а... сорак гадоў таму!

– Пешшу дайшоў бы гэты ліст, калі б ішоў з лапы на лапу! – заглянуў Грак бабулі праз плячо на густа запісаныя старонкі. Нават уявіць не мог, што гэта такое – сорак гадоў. – Колькі гэта сорак?.. сарок?..

– Гэта ліст з мінулага стагоддзя, – сказала бабуля і пасвятлеў яе твар, быццам памаладзела на тыя „сорак сарок”.

Грак прыгледзеўся да бабулінага твару. Ён такога ніколі не бачыў: па бледных бабуліных шчоках разліўся румянец.

– Ты... пачыр-р-рванела? Хор-р-раша!

Гражынка глядзела з-пад кніжкі на бабулю. Цікава было спытацца, што напісаў ёй сорак гадоў таму сябар. І чаму той ліст не прыйшоў тады, калі яго выслалі.

– Чаму ж гэты ліст не прыйшоў тады! – бабуля цяжка села на канапу. – Усё было б іначай!

Гражынка ўсунула далонь у кішэнь свайго школьнага рукзака. Там ляжаў нераспячатаны ліст ад аднаго хлопца з шостага класа. Насіла яго там ужо... не сорак сарок, а толькі пяць дзён.

## Скарбы

Гражынчын тата збірае паштовыя маркі. Бабуля – цікавыя ўзоры ручнога вязання кручком і пруткамі; у ейнай шафе – поўна часопісаў, рысункаў і сплеценых, выгафтаваных і вышытых сурвэтак, каўнерыкаў, абрусаў, блузак, фартушкоў... Можна было б надзяліць усю гміну, смяецца бабуля. Мама збірае часопісы аб модзе. У мамы ёсць журналы мод нават вельмі старыя – даваенныя яшчэ. Кажа, усё заўжды моднае – трэнды вяртаюцца, і з кожнага можна самой выдумаць яшчэ штосьці такое цікавае, каб і быць іначай апранутым за іншых, хоць па апошнім крыку моды. Цікавіць гэта і Гражынку, але яе больш вабіць макіяж. Час ад часу марыцца ёй прыгожа памаляваць свой твар і выйсці так на вуліцу. Ды якое гэта маляванне – Грак узіраецца, як мама ды бабуля пэцкаюць сабе павекі каляровымі фарбамі, шмаруюць па вейках нейкім пруцікам з валосікамі тушу, на шчокі накладаюць румяну ды пудру, а вусны фарбуюць пэндзлікам або памадай ды алоўкам абводзяць. Якое гэта маляванне твару! Памалявалі б увесь чорнай тушшу – гэта мела б выгляд. Або ў плямкі ці палосачкі – такая карціна ў стылі Лявона Тарасэвіча: вось гэта было б мастацтва! Бо Грака цікавяць каляровыя алоўкі. Розныя – васковыя, пастэль, а найбольш звычайныя, дзе ў драўлянай асадцы схаваны каляровы сардэчнік. Грак у кардоне за занавескай назбіраў каляровых алоўкаў як дроў! Вельмі цікава іх вастрыць – бярэш дзюбай за кончык, і точыш. Драўляная стружка сыплецца па баках (тады нельга ўдыхаць, бо набрацца могуць пілавінкі ў лёгкія і во як накашляецца Грак, плюючыся каляровым пылам!), на чорныя крылы асядаюць пастэльныя пылінкі. Бывае, Грак так захопіцца тачэннем „крэдак” у кутку на акне, што на заслоне ўзнікаюць вясёлкавыя далікатныя экзатычныя кветкі. Але ж прыбраць тое цуда-мастацтва час ад часу трэба.

Найчасцей за генеральную ўборку людзі бяруцца пад свята. Тады вось і выганяюць з найбольш скрытных закуткаў прытоеных там „катоў”. Грак з неспакоем узіраўся, як Гражынка валачэ ў ягоны запаветны кут „пылацмока”. Пыласос, які наводзіў на Грака заўсёды дзікую паніку, зароў і стаў хапаць усё, што было на яго дарозе – пыл, паперкі, стружкі, ней-

кія аскепачкі... „О, мае скарбы, мае аловачкі!” – залапатаў Грак над страшным пылацмокам і адважна ўхапіў у дзюбу з-пад яго доўгага носа ў апошнюю хвіліну апошні цэлы, чырвоны, як мак, аловак.

## Воля

Гражынка з татам выбраліся ў недалёкае падарожжа – у вёску. На машыне суседа Алёшы Казла, разам з ім ды яго жонкай Наталляй. Казлы, гаспадары суседняга дома і ката спадара Шадара, ехалі наведаць сваю цётку Клаву. А тата з Гражынкай хацелі паглядзець, як пачынаецца ўрэшце вясна, і папікнікаваць хвілінку над рэчкай. Пахадзіць, пабачыць, колькі буслоў прыляцела...

Спадарства Казлоў заехалі на панадворак свае старэнькае сваячкі, а Гражынка з татам, прывітаўшыся з бабуляй Клавай, узялі свой кошычак і пайшлі на паплавы над рэчкай.

– Тата, тата, гэта добра, калі першага бусла ўбачыш, як стаіць у гняздзе? Увесь год будзе застойны? Лепш першага бусла ўбачыць у палёце, праўда? Ты ўжо бачыў лятучага бусла, і вось паляціш у камандзіроўку...



– Што? – падняў покрыўку кошыка дзюбай Грак, якому ўжо абрыдла сядзець там ціхенька, каб не заўважылі. – Я не ведаю, што тата кудысьці мае ляцець! Ці ён увогуле ўмее лётаць?!

– Адкуль ты тут узяўся?! – спалохалася Гражынка.

– Захацелася дыхнуць свежым паветрам, – Грак ускараскаўся на века кошычка. – Ой, прапах я гэтымі варанымі яйкамі. Перапэцкаўся ў масла... Ой, дыхнуць хочацца-а-а...

Глянуў Грак на разліўныя прасторы ракі – ад вады адбівалася сонейка, аж сляпіла ў вочы. Ад ракі нёсся шчымлівы пах. У кустах мітусіліся птушкі, а жаваранак вісеў як падвязаны да неба і звінеў, пераліваўся ягоны званочак. Грак набраў паветра ў грудзі і аж заплюшчыў вочы.

Гражынка паклала дрыжачую руку на спіну Грака.

– Хочаш... ляці! Хочацца табе на волю, праўда?

– Аш... аш.... ашалею! – дыхнуў на поўныя грудзі Грак і сарваўся ўверх з кошычка. Само паветра несла яго ўвысь, у неба...

– Якая воля! Якое шчасце!

Гражынка з татам паціху вярнуліся на падворак бабулі Клавы. Паставілі кошычак на аўтамабіль і зайшлі ў хату. Зараз і спадарства Казлоў збіралася дадому.

На раскрытым кошычку сядзелі гракі і дзяўблі мамін пачастунак. Зараз жа сарваліся, з крыкам і гамам, апрача аднаго.

– Запрасіў я гасцей на святочны пачастунак, – з поўнай дзюбай усміхнуўся задаволены Грак.

## Дахаты!

Грак вярнуўся дахаты вельмі хутка. Проста прыляцеў з новапазнанымі птахамі да кошычка, дзе было шмат смакоцця – каб пачаставаць іх мамінымі святочнымі вырабамі. Раздзяўблі нечаканыя госці вараныя яйкі, пірагі і вяндліны на бутэрбродах, адны крышынкі пакінулі, дый паляцелі. А Грак палез у аўто, сеў на руль ды звесіў дзюбу. За вокнамі мільгаў вясновы краявід, спадарства Казлоў разам з Гражынкай пачалі падпяваць, а Граку ўсё больш рабілася млосна.

– У мяне марская хвароба, – пракаўтнуў сліну Грак. – Мне блага. Затрымайцеся, калі ласка, мне трэба на паветра.

– Ты што там балбочаш? – спыталася Гражынка. У гуле машыны не быў чутны хрыплівы басок Грака. – Ты, пэўна, нахапаўся свежага паветра. Не прастыў часам?

– Не-е-е. Адчыні акно, Гражынка.

Дзяўчынка адсунула шыбу. Грак хацеў высунуць дзюбу навонкі, ды паветра адпіхнула яго назад.

– Ты добра падумаў, Грак, што захацеў дахаты? Мог бы ж паляцець сабе на волю! – спадар Казёл ведаў добра норавы свайго ката спадара Шадара. Адно толькі адрознівала Грака ад Шадара – Шадар хадзіў сабе па волі, колькі хацеў, толькі ў час пагрозы птушынага грыпу быў зачынены ў хаце. А Грак ужо год сядзеў дома, выглядаў праз фортачку, і займаўся адно

хатнімі справамі. Праўда, бачыў увесь свет у тэлевізары і праз інтэрнэт, але птушынага жыцця не ведаў ані-ані.

– Хутчэй дадому, хутчэй, – соп Грак, заплюшчыўшы вочы. Ад таго мігцення за акном, здавалася, усё ўнутры перавярнулася. І тыя хвіліны, калі лунаў у паветры, здаліся палётам у космас. Пасля вяртання з касмічных палётаў так мусілі адчуваць сябе касманаўты – віраванне ўваччу, няўпэўненасць ног ды крылаў (вядома, калі касманаўт быў крылаты)...

– Ой, мама! – пачала гаворку дома Гражынка. Грак паўляжаў на яе плячы. – Наш Грак лятаў!

– Ну, і што дзіўнага? – паглядзела на Грака мама. – А што з яго ножкамі?

– Ой, мама, – прастагнаў Грак. – Піць дайце. Вады... Вось, гэта і ёсць вясна, вясновае аслабленне арганізма. І вітамінак, калі ласка.

## Кааліцыя



Грак сядзеў пасярод кухоннага стала, а спадар Шадар – на табурэтцы. Нікога ў хаце іншага апрача іх не было. Шадар улез праз фортачку, запрошаны Гракам. Грак неспакойна тупаў па цыраце – хоць паміж гракам і катом быў мір, не трэба забываць аб прынцыпе абмежаванага даверу. Пачаставаў ката кавалкам пірага. Гэта праз страўнік да сэрца – такі падыход не адну справу палагодзіў. Сыты Шадар адкусіў кавалачак – няма чаго грэбаваць пачастункам, калі ты ў гасцях.



– Ну і як там справы ў вас, у Казлоў? – спытаўся ветліва Грак у госця.

– Хоць я жыву ў спадарства Казлоў, не люблю, каб мяне так называлі. Як жа ж гучыць: Шадар Казёл! Я проста – Шадар Кот. Спадар Шадар. А вы мяне чаго тут запрасілі, спадар Грак? На нараду?

– На нараду. Сам жа не можаш сабрацца на нараду. Іншыя птушкі збіраюцца на сеймікаванне, але я не люблю такога гаму. Дарэчы, пакуль што я толькі вас, спадар Шадар, ве-

даю асабіста з жывёл. І хоць вы шарсцюк, а я пярнаты, і на чатырох лапах ходзіце...

– Умею і на дзвюх. Дарэчы, заднія ў мяне ногі, пярэднія лапы, так як у вас верхнія – крылы...

– Вось, бачыце, дэфініцыі час ад часу патрэбныя.

– Добра, добра... У якой справе наш сход?

– Я б хацеў завязаць кааліцыю.

– Меншасную, ці большасную?

– Здаецца, нас тут двух.

– Ды я большы і цяжэйшы. Няма тут ніякае паловы. Мая кааліцыя большасная. Куды твае схавалі малако?

– У халадзілку.

– Халоднае, яшчэ прастуджуся. А каўбаска?

– А тут пару скрылёчкаў вяндліны ляжыць на талерцы...

– Э-э-э... Дык што прапануеш, Грак? Наша кааліцыя... супраць каго мае быць? Супраць нашых?

– Не супраць каго, а за што. Будзем змагацца, каб нам лепш жылося, будзем гаварыць уласным голасам...

– Ну, сапраўды, як у іхным Сейме... Ну, давай тую вяндліну. А якія міністэрствы даеш мне ў лапу?..

## Пасябраваць!

На першых старонках газет паявілася сёння інфармацыя: будзе лета нялетняе, халоднае і дажджлівае. І хоць у гэты маёвы ранак ярка свяціла сонца, дзьмуў халаднаваты вецер. Фортачку пакінулі адчыненую, Грак мог спакойна вылецець на вуліцу, ды не надта цягнула яго выбрацца з цёплага зацішнага пакоя. Так яно ў жыцці бывае: найбольш смакаваў бы забаронены плод, асабліва калі пакажуць яго табе праз шыбу. А тут – ляці, калі хочаш. Хочаш вярнуцца – калі ласка, абы дарогі дамоў не забыўся. Можаш нават запрасіць каго-небудзь да сябе ў хату, неабавязкова спадара Шадара (які і незапрошаны ахвотна наведае, калі не Грака, дык хоць пазнаёміцца са змесцівам суседскага халадзільніка). Можаш запрасіць нават нейкую сімпатычную грачышку-аднагодку, што летась з яйка вылупілася. Паразмаўляць, пачаставаць чымсьці. А, можа, лепш

сапраўды выбрацца на вуліцу, пабачыць, што там робіцца цікавага.



Грак ускочыў на раму фортачкі. Хіснуўся на двор, і калі адчуў, што агарнула яго халоднае паветра, аж заплюшчыў вочы і па-а-а-а-ляцеў! Прызямліўся на свежай маладзенькай траве. Крутануў галавой туды-сюды. Здавалася, быў у вялікім празрыстым шары, які канчаўся недзе на гарызонце і ў хмарах, а ўсё наўкола было аграмаднае – мала што дрэвы, дамы, платы, машыны, што з грукатам і шумам імчалі па дарозе. Нават травіны былі такія вялікія! А паміж сцяблінкамі хадзілі мурашы, поўз на адной назе здаравенны слімак, а з норкі вылазіла штосьці доўгае, быццам вяроўка, гібалася, надувалася...

– Ты хто такі? – зазірнуў Грак у месца, дзе павінна быць галава таго чагосьці доўгага і гнуткага. Жвавая істота, азірнуўшыся на птушку, юркнула ў пухкую чорную глебу блізкага кратавіння. – Я хачу з табой пасябраваць.

– Э-э-э, які ты дурань! – слімак наставіў рожкі ў бок Грака. – Пасябраваць з дажджавым чарвяком! З бязногім круцялём! Яшчэ і пытаецца! Еж, не пытайся. А мяне не чэпіш, у мяне дом на спіне!

І слімак падагнуў сваю слізкую ножку, схаваў рожкі і ўвесь залез у сваю хатку.

– От і пагаварыў! Ці ж я буду есці чарвяка? – здзівіўся Грак. – Здаецца, пшанічная булачка смачнейшая!..

## Нацыянальнасць

І зноў дадатковыя выхадныя дні ў школе. Апрача субот, нядзель, дзяржаўных і царкоўных свят, летніх канікул ды зімовых і веснавых перапынкаў. Трапляюцца святы, калі не ідзе ў школу ці на працу амаль уся краіна і, вядома, усе цешацца. У гэты раз наведаў нашу краіну епіскап Рыма, рымскі папа – начальнік усяе Каталіцкае царквы. І ён таксама цешыцца, паколькі гэта яго першае такое падарожжа на новай пасадзе. Сядзіць перад тэлевізарам перш за ўсё бабуля – яна вельмі лю-

біць, калі не прысутнічаць на такіх мерапрыемствах, дык хоць паглядзець іх у тэлевізары ці пачытаць аб іх. У гэты раз не ўдалося ёй паехаць у сталіцу, дык з замілаваннем глядзіць на тлумы людзей з прыўзнятым настроем. І мама, і Гражынка ўзіраюцца ў шкляны экран, на якім відаць, як жыхары краіны вітаюць госця, як лунаюць сцягі на маёвым ветры...

– Вера яднае людзей, – сказала бабуля. – Паглядзіце, вось, і немец, і паляк, і беларус, і кожны іншы, – кожны роўны перад Богам, і калі б усе жылі па Хрыстовай навуцы, войнаў не было б, а была б справядлівасць і агульная любоў. І кожны да кожнага прыязджаў бы як жаданы госць.

Грак прысеў бабулі на плячы і, як яна сваёй галавой у акулярах, паківаў таксама і сваёй дзюбай, што ў гракоў значыць тое самае: мае рацыю старая птушка, праўду кажа. І раптам і ён стаў раздумваць, шпацыруючы па бабуліным швэдрыку, – чапляючыся кіпцямі за ніткі:

– Вось, ёсць чалавек беларус, ёсць нарвежац, ёсць немец, ёсць егіпцянін... Кожны каркае па-свойму. Ды грак са Скандынавіі – ён грак-нарвежац або швед? А наш тутэйшы грак – беларус ці паляк? Я ведаю пару моў... Ну, мы, птахі, разумныя.

– Злазь з мае кофты! – узлавалася бабуля: Гракаў кіпцік вывалак з яе прыгожага элегантнага швэдрыка доўгую ружовую нітку, якая і пацягнулася за ім, падфыркнуўшым у пярэпалаху.

– Ой, даруйце мне, няшчаснаму! – залапатаў крыламі Грак, а нітка ўзляцела за ім. – Ой, адпусціце, бабуленька, мне, грэшнаму!

Схапіла бабуля за нітку, пацягнула яе назад, а за ёю Грака з апутанай ніткай нагою:

– Я табе дам адпушчэнне ды памілаванне!

Ну добра, што здарылася гэта ўсё ва ўсенародны дзень адпушчэння.

## На канікулы!

– Збіраешся, Гражынка, на канікулы... – Грак расхаджваў па пісьмовым стале справа налева і ў другі бок, з крыламі назад, зусім як тата, калі ахопліваюць яго роздумы і ў галаве выклёўваюцца самыя творчыя ідэі. Ды ў Грака роздумы не былі зусім творчыя: набліжалася лета, усе ў хаце меркавалі, як яго правесці, а Грак з вясны не зрабіў нічога, каб на лета мець занятак. Калі б пазнаёміўся з якой мілай грачышкай, дык можа і сям'ю завёў бы... А то зноў хадзі ў старых кавалерах, выглядай праз акно, як іншыя гадуюць свой вывадак! Хоць, мабыць, і не пара яшчэ была Граку засноўваць сям'ю – хоць веды меў ён немалыя, ды ўсё прасеяныя праз чалавечы досвед ды праз тэхніку. А тое, што ў птушынай душы іграла ў яго – нейкая генетычная справа: снілася яму тое, што перажыў ягоны прадзед, ведаў тое, як думалася ягонай грачысе-прабабцы... І яшчэ далей – бачылася, як выглядаюць гоні з птушынага палёту зусім невядомай тут аколіцы, парослай нізенькімі бярозкамі... Быццам быў там, хоць ведаў, што ніколі там яго не было. Ведаў, якія травы спатрэбіліся б на якую хваробу, а якіх есці нельга, бо мала што не лечаць яны, а пашкодзяць ці нават і атруцяць. Можа, ягоны мозг, праўда, маленькі, бо птушыны, гэтак забаўляўся, так як і ў нас, людзей – ствараючы свае рэальнасці ў сне ці нават і наяве, а можа і ёсць штосьці ў гэтым, што застаецца ў нас памяць пакаленняў? І перадаецца далей? Значыць, і ў Граку адзывалася грачыная душа – ахвота быць сапраўдным граком, спрытным, кемлівым, трывалым птахам, і быць у чорнай грамадзе, мабыць, не апошнім. І мець сяброў-пабрацімаў, хоць і не толькі ў пёры апранутых...



– Ну, як, Гражынка, бачу, што ты ўжо далёка. Не пытаешся, што ў мяне. Пра канікулы думаеш.

– Ай, прабач, Гракуша... Задумалася. Хочацца мне паехаць у горы. У паход. Ды Кася збіраецца на мора, арганізуецца лагер у кемпінгавых доміках. Гэта для мамчыных сынкоўпестункоў і дачушак-пястушак. Нудота! Я была там два гады таму, думала, адурэю. А Касі не хочацца ў паход.

– Дык вазьмі мяне з сабою! – Грак аж падскочыў ад радасці. – Я не... грачок-пестунок. Памагу табе несці рукзак.

## Кніжкі

У гэтым годзе школа да канца навучальнага года не будзе прапаноўваць падручнікі для наступнага класа. Не, усе даведаюцца, якія кнігі патрэбныя будуць кожнаму вучню – і падручнікі, і практыкаванні, але цяпер столькі гэтых розных аўтарскіх падручнікаў друкуецца па ўсёй краіне, што настаўнікі выбіраюць, на іх думку, найлепшыя, і бывае, што нават у паралельных класах у адной школе вучацца па розных кніжках. Можна купіць падручнікі ў вучняў старэйшых класаў, за меншую цану, і калі пашчасціцца, можаш ад акуратнага старшакласніка набыць вельмі дагледжаныя кніжкі, ну, зусім як новыя. Раней можна было купіць таксама навюсенькі камплект у настаўніка, якому прысылала кнігі выдавецтва. І хоць гэта танней, чым у кнігарні, усё адно тата з мамай мусілі адкласці пару хрусткіх соцень на веды для свайго пестунка...

– Прэм’ер абяцаў таннейшыя кнігі! – прыпомніла бабуля, корпаючыся ў сваім кашальку, мабыць, трэба будзе дакласці да кніг унучцы.

– Мала што абяцаў прэм’ер! – злосна буркнула Гражынка. – Абяцаў нам таксама скарачэнне школьнага года.

– Усе яны абяцаюць перад выбарамі! – Грак ужо не першы раз чуў такое выказванне хатніх выбаршчыкаў.

– Пакуль я дарасту да часу, каб прымаць удзел у выбарах, дык іхныя ўлады шэсць разоў пераменяцца, злева направа, справа налева, і цэнтральна, як хочаш, – Гражынка пераглядала свае кніжкі, якія варта будзе запрапанаваць маладзейшым калегам. – А колькі можна ўзяць за стары падручнік па матэматыцы? Летась я перастаралася, чысцюткую „матму” прадала адно за тры злоты...

– Прынясі спісак кніг, буду шукаць у кнігарні летам тое, чаго не купіш, – мама заглянула ў кашалёк, дзе ўжо ляжалі купкі банкнотаў, пазвіваныя ў пакецікі: на тое, на гэта...

– А, можа, усе кнігі ў суботу купіш ад старшакласнікаў? –

Грак, хоць больш прыемна было яму крадком усе канікулы гартаць ды перачытваць новенькія кнігі, спалохаўся, што мама набудзе іх перад самым пачаткам новага школьнага года. – А потым толькі свежыя практыкаванні?

– Я цябе добра ведаю, Грачыска! – Гражынка ўжо рассакрэціла Гракову хітрую практыку. – А потым увесь год будзеш хваліцца, што лепш за мяне ведаеш усю школьную праграму!

## Чорны маю твар

Надвор'е ўрэшце зрабілася... веснавое. Зусім пад лета. Пагода. А, можа, і добра, што так доўга ліў дождж? Вада патрэбная раслінам для таго, каб расці. А расліна не вырасце, не зацвіце, не даспее, не дасць пладоў – і галодныя будуць і людзі, і звяры ды птушкі. Ходзіць Грак па падваконніку, мяркуе аб гэтых раслінах – бо неяк трэба заняць думкі. А думаць трэба лагічна, бо калі не – думкі ідуць самапасам, і такое нагародзіш, што лепш і не азывацца! А пры такім надвор'і дык душа ляціць аж пад хмары. Заспявалася б ад шчасця!



– Кар-р-р-ра! – вылецеў з Гракавага горла спеў.

– Ты чаго дзярэшся! – тата сербануў кавы з кубка. – Кругом груганнё, жыць не хочацца.

– Ты пра што? – прабурчаў Грак крыўдліва. – Тое „груганнё”, здаецца, тут ні прычым. Я не груган, не галка, не варона, а – грак. Ну і што, што я чорны і чорны маю твар? Панараблялі тых метафараў! Кепскі ў каго настрой, людзі дзяўбуць, справы не ўдаюцца – адразу „кругом груганнё”! А мне спяваць захацелася. Ну, тата, папсаваў ты мне настрой.

– Ты чаго надуўся! – тата махнуў на птушку „Выбарчай газетай”. – Хочацца паляцець – ляці. Хочаш спяваць – спявай, толькі тады, калі я ўжо пайду з хаты.

З татам у Грака не было дагэтуль такое доўгае размовы.

– Я разумею, што ў нас тут мужчынская разборка, – крок Грака стаў цвярдзейшы, салдацкі. – Можа, табе не падабаец-

ца, што я ўвогуле ў вас тут жыву? Не зарабляю грошай, а карміць мяне трэба? Дык паказвайце мяне ў цырку! Я буду Гракам-які-гаворыць! А, можа, не падабаецца табе тое, што ствараем з табою мужчынскую партыю ў доме, поўным баб?

Тата аж пырхнуў кавай на „Выбарчую”. Засмяяўся!

– Ты што, смяешся? Хоць я маленькі, ды ўдаленькі! Ты ўсё на працу ходзіш, а мне з імі ўсімі тут спраўляйся. Ты ж ведаеш, што жанчыны – з Венеры, а мы – з Марса. Наш мозг працуе іначай, іначай успрымаем ды тлумачым свет...

– Пачакай, пачакай, хай толькі прыйдуць нашы „бабы” дахаты, загаворыш іначай! – тата зарагатаў.

– Што ж, сёння цяжка выжыць чалавеку...

## Вясна

Адразу пасля таго, як абсохла на траве раса, Грак вылецеў праз фортачку і сеў на парэнчы лаўкі. Лаўка каля вуліцы не была звычайнай лаўкай – доўгая дошка на чатырох стоўбікахножках, на якую час ад часу выходзяць пагрэцца на сонейку ды паглядзець на людзей перш за ўсё бабулькі. Лаўкі пад пла-



тамі наводзяць на людзей ахвоту паўспамінаць, асабліва тое былое, калі былося маладым і так ахвотна спявалася. А гэтая лаўка мае яшчэ старажытную спінку – ад старое драўлянае канапы, якую тата прымайстраваў да дошкі. Цяпер можна аперціся на тую спінку, на якую абапіраліся натруджаныя спіны прадзедаў і прабабуль, і як тады паўспамінаць хочацца! Спінка паточаная шашалямі-шведамі, поўная дзірачак-норак, але трымаецца спраўна, і выразныя на ёй выразаныя лісткі ды галінкі вінаграду. Дзеўбануў Грак у  дзірачку-норку:

– Ёсць там хтосьці? Ці там жывуць шведы?

Спадар Шадар, што якраз шнырыў за чымсьці ў траве за лаўкай, ускараскаўся на лаўку і сеў.

– Ніякіх тут шведаў ужо няма. Высяліліся.

– А караеды? Мо караеды там жывуць? – не здаваўся Грак і соваў нос у пакручастыя дзірачкі.

– Караеды жывуць у жывой драўніне! – пазяхнуў спадар Шадар. – Эт, на гэтую канапу і легчы немагчыма. У маіх Казлоў мяккая канапа мае такую спінку, што расцягнуцца на ёй можна ўздоўж, лапы звесіць па баках, і спааа-аааць, мммм... Мякенька. Ну, кінь ты дзяўбці, бо вібрыруе ўся лаўка, мне ў вуха коле.

– То чаго тут разлёгся? Расцягнуўся на палову лаўкі. Глянь, ідзе баба Стэпа, – Грак убачыў бабулю Сцепаніду, што з палачкай шнуравала ў іх бок.

– Пасуньцеся, спадар Шадар, – бабуля ветліва азвалася да ката, аднак яе палачка была менш ветлівая – штурханула Шадара, можа, не так і моцна, але кот адчуў сваю крыўду. Падцягнуў сваё хвасцішча пад бок.

– Ну што, хлопцы, пра што разважаеце? – бабуля папраўіла на носе акуляры. – Можа, заспяваем, калі ўжо тут паселі?

І зацягнулі разам утрох: „Цячэ-э-э ва-а-ада ў яр-р-р-ок, мяўўўў!..”

## Нудотна?

Ну і ўсё – Гражынка ўсё ж выбралася ў горы, мама паехала з татам у адпачынак, а Грак застаўся з бабуляй у хаце. Ды і ў бабулі вольны час – на працу не ідзе, адно ў агарод пакапацца, адкуль вяртаецца стомленая ды загарэлая.

– Гэта вы з-за мяне засталіся дома? Я ж казаў Гражынцы, хай мяне возьме ў горы; памагу ёй несці заплечнік. Дарэчы, маглі б і вы паехаць. Мне пакінулі б сухую ежу, ваду... Раніцай адчыніў бы фортачку з гаплючка, паляцеў бы на вуліцу, наеўся б чаго... цьффу... жывога, папіў бы расы... – Граку ад хвалявання расінка, бы гарошак, застрагла ў горле. – Увечары вярнуўся б, зачыніў зашчапку за сабою... А вы гулялі б сабе на волі, кожны ў сваім баку.

– Ты ж сам бачыш, што амаль не плачаш. Як жа я цябе пакіну! Не турбуйся, у агародзе таксама ёсць занятак. Дарэчы, там вельмі цікава. Не толькі я праводжу кавалак лета на ўчастку. Шмат людзей корпаецца ў зямлі, праполвае, палівае, падвязвае, збірае плады... Вось памідорыкі свежыя, радысач-

ка... Неўзабаве тата з мамай вернуцца, і тады мама пасядзіць з табою. А ў агародзе да таго часу ўсё парасце! Дарэчы, мне там зусім не нудна. Можа, выберашся са мной на канцэрт?

– Куды, у агарод?! А што, птушачкі спяваюць?

– Ну, птушачкі, вядома, але і канцэрт будзе пад вечар. Мае сябры выступаць будуць.

– Вашы сябры-артысты?

– Ды не, проста так, спяваюць. Сам ты ж таксама паспяваць любіш.

– О, та-а-ак, хор-р-р-р-аша мне часам удаецца!

– А ты ж не мастак, а...

– Аматар-р добр-р-рай музыкі.

– А мае сябры-пенсіянеры таксама аматары. Толькі ты ім не падпявай, бо ў танацыю можаш не трапіць, а яны – самадзейнікі-аматары, яшчэ возьмуць і разгубяцца...

Ускокнуў Грак у бабулін кошык з векам, праехаўся ў цяньку на ўчастак. Думаў, палятае ўволю над градкамі, ды толькі сядзеў ды зяпаў на ганку доміка, хаваючыся ад сонца. А ўвечары не стрываў ды пацягнуў з усімі на ўсё горла „На зялёнай Укр-р-р-раіне!" І ніхто не збіўся з танацыі!

## Мазалі

Гражынка з турыстычнага паходу прыслала паштоўку. А на паштоўцы, апрача прывітанняў, такія мілыя словы: „Каханыя грошы прышліце бацькі". Бабуля адправіла тэлеграфам грошы ў нейкую горную вёсачку, бо ж „каханых бацькоў" дома не было.

– А хопіць ёй трыста злотых? – задумалася бабуля. – А як вярнуцца назад будуць клопаты?

Гэтак усе бабулі і дзядулі дагадзіць хочуць унукам, пераймаюцца імі больш, чым бацькі. Распускаюць, як кажа Гражынчына мама. А ўнукі пасля, калі не ўдасца з бацькамі дамовіцца, дык бегма адразу да бабкі ці дзедкі. Або адразу – дзейнасць на два франты.

– Скажаце маме? – пацікавіўся Грак.

– Што ўвогуле адправіла ці колькі адправіла? Відаць,

спатрэбіліся. Можа, галодная ходзіць? Або купіць трэба аспірын? Або на дарогу дадому не мае, беднае дзіцятка...

– Э-э-э там! Каб я выбраўся з ёю, то дапільнаваў бы.

– А што, прыляцеў бы дахаты, як той паштовы голуб, калі што?.. Трэба ж давяраць маладым. Хай вучацца самастойнасці, адказнасці.

– Калі растраціла грошы, дык няхай заробіць, – прыдумаў Грак. – Хай дзе пойдзе на жніво ці сенакос. Або хай збірае ягады. Бачыў у тэлевізары, як маладыя зарабляюць. Мыюць аўтамашыны...

– Ой, не, не! – спалохалася бабуля. – Каб наша Гражынка, бы дзіцё пралетарыяту, стаяла з анучкай і вядзерцам і прасілася ў буржуяў, каб ім машыну памыць? Можа, я ёй мала паслала?..

Першымі з адпачынку вярнуліся бацькі.

– Ледзь нам стала грошай на ўсе працэдуры ў санаторыі, – прызналася мама. – А і Гражынцы трэба было паслаць, бо ёй не хапіла на дарогу дадому...

Пасля прыехала Гражынка.

– На нагах мазалі, на руках мазалі! Нахадзілася, нарабілася! Маглі б вы мне грошы якія паслаць, родныя, калі так прасіла. Добра, што зарабіла на дарогу дадому. У гаспадароў у жніво памагала, снапы вязала за касою. Ці паверыце, што на схілах гор касілі не камбайнам?

– Паверым... – усміхнуліся родныя.

## Гракамастацтва

У кожнага свае скарбы. Бывае, што хвалішся сваімі здабыткамі перад іншымі, збіраеш іх многа і самыя розныя, і выставіць іх хочацца, паказаць. Вось, бабуля збірае лямпы, пачынаючы ад вясковых газовак – звычайных хатніх лямпаў з круглай бунькай са шкла ды кнотам, замочаным у нафту, да ліхтароў, з якімі гаспадары хадзілі вечарам упраўляцца ў аборы і хлявы. Такую лямпу можна запаліць у выпадку нейкай аварыі электрычнасці, і нават відаць лепш пры такой запаленай лямпе, чым пры некалькіх свечках. Тата збірае выразкі

з газет пра футбол, яшчэ з таго часу, калі трыццаць гадоў таму каманда нашай краіны выйгравала матчы на алімпіядзе і ў сусветных чэмпіянатах. У таты ёсць тагачасныя здымкі і аўтограф самога Казімежа Гурскага, трэнера зборнай. Мама кажа, што тыя паперыны – толькі „пыласосы”, збіраюць пыл ды жоўкнуць, а спадчынніка няма, які той татаў скарб прыняў бы як самае вялікае багацце. Гражынка асабліва не цікавіцца татавымі памяткамі, хоць можа пералічыць імёны тагачасных герояў: Лято, Касперчака, Тамашэўскага, Дэйны, Горганя, Любанскага... Што ж, дзяўчынка яна, хоць тата стараўся зацікавіць яе і аўтамашынамі (ведае ўсе маркі!), і самалётамі...

– Я ўжо не збіраю аловачкаў! – заявіў Грак і выплюнуў з дзюбы агрызак зялёнага алоўка. Гэта пасля таго, як бабуля рассакрэціла яго склад за заслонай ды засмактала ў пыласос, наводзячы святочныя парадкі ў хаце. Вядома, крыўдна – збіраў, цешыўся, а тут прапала!

– А што цяпер цябе прыцягвае? – бабуля зноў шнырыла па кутках. Небяспека! – Кажы адразу, каб не шукала дарам.

– Я... таго... здымкамі цікаўлюся.

– Дзе трымаеш склад?! – бабуля акінула пагрозлівым позіркам усю кватэру, быццам цаляла кулямётам. Смецце, неакуратнасць, бацылы – галоўны вораг бабуль, узброеных анучкамі!

– Маленькі складзік у мяне... Вось тут, у папцы. Адразу парадкаваў... – Грак сам хуценька развязаў дзюбай, памагаючы лапкай, матузкі.

У папцы ляжалі акуратна выдзеўбаныя са здымкаў партрэты птушак. Перш за ўсё з газет – каляровых і чорна-белых. Пашкадаваў адно здымкаў, на якіх быў ён асабіста, разам з Гражынкай – яны былі цэлыя. Толькі крышку пакрэмзаныя дзюбаком – гэтак любаваўся Грак самім сабой.

## З іншай планеты

Загаварылі ў доме пра іншапланецян. Усе – і мама, і тата, і бабуля, і Гражынка. Аказалася, кожны з іх мае нейкае ўяўленне пра „іншых”. А ўсё з-за кругоў у збожжы, якія пая-

віліся і ў нашым старонні, рэгулярна выціснутыя на ячменным полі. Мабыць, прыляцелі іншапланецяне на нейкім касмічным караблі.

– Гэта зялёныя „чалавечкі”, – заявіла бабуля. – Зусім на нас падобныя, адно зялёныя. З вузкімі вочкамі, на нагах і руках у іх перапонкі...

– А чаму – чалавечкі? – настабурчыў пёры Грак. – І чаму якраз зялёныя, а не чорныя? І тыя перапонкі!.. Ну, перапонкі... Хай будзе. У качак на нагах ёсць перапонкі.

– Я чытаў, што гэта могуць быць гады. Такія, як кракадзілы, скажам. У пачатку гісторыі нашай Зямлі паляцелі яны ў космас, а зараз вяртаюцца. Іхняя цывілізацыя намнога больш развітая за нашу. Бачыце, як апанавалі яны палёты ў космас... А калі мы зможам адарвацца ад нашай Зямелькі?..

– Кракадзілы? – Грак ад абурэння цяжка засіпеў праз ноздры. – Толькі таму, што ў іх мозг большы за...

– Мабыць, гэта, усё ж, нейкія асобы жаночага полу, – у маме ў такіх момантах азываюцца феміністычныя ноткі. – Інтэлігентныя, зацікаўленыя іншым светам...

– Нейкія зорныя кабеткі, якія выбраліся на іншую планету пабачыць тамашнюю моду! – тата заўжды ўяўляе, што кіруе светам усё ж мужчынскі пачатак. – Ды ж гэта, без сумнення, мазгавітыя асобені. Гэтак выціснуць кругі!

– Ну і што – кругі! – Грак стаў хадзіць па стале па крузе. – Ідзеш, ідзеш, адно звяртаць увагу трэба, каб ісці направа... Па спіралі...

Бац! – і грохнуўся Грак дзюбай аб стол – зусім закружылася ў яго галава.

– Га-га-га! – зарагатала мама. – Гэта, пэўна, нейкія падвыпіўшыя маладзёны, вяртаючыся з патанцоўкі ў святліцы, так выкачалі тыя кругі.

– Я сам увёў сябе ў хвалі альфа, паўтараючы гэты рух, – ачомаўся Грак. – Я таксама начытаўся пра тыя касмічныя ды іншыя нязведаныя справы. А тыя іншапланецяне дык проста – птушкі. Мы лятаем спрадвеку.

# Рок-грак

У гэты раз Гражынка ўрэшце паехала на „Басовішча” ў Гарадок. Паехала з татам, і адно на другі дзень Фестывалю песні Маладой Беларусі, і зусім толькі на хвілінку. Тата крыху засумаваў па беларускім року, але ён, здаецца, трохі яму параеўся. Калісьці і тата, і мама ездзілі ва ўрочышча Барык, паміж Гарадком і Валіламі, спачатку асобна, а пасля разам, а калі нарадзілася ў іх Гражынка, неяк не вельмі мелі час. Здаецца, прыйшла пара і Гражынцы гэтым пацікавіцца...

– Э-э-э, ужо не тое, што калісьці... – маркотна прамармытаў тата. – Неяк не так...

– Неяк не так, як... да вайны! – засмяялася бабуля. Бабуля мала памятае той час перад вайной, але цяпер яе аднагодкі і старэйшыя гэтак параўноўваюць былое і мінулае. – Калісьці было ўсё смачнейшае, прыгажэйшае...

Грак прахаджваўся моўчкі па стале. Урэшце нафуфырыўся:

– А не маглі б узяць мяне? Я ні разу не слухаў беларускага рока...

– Як не слухаў! – пстрыкнула па яго пёрах Гражынка. – А хто ўвесь час уключае „Тры чарапахі”?

– Бо там пра сланоў і чарапах. Беларускіх.

– У Беларусі ж няма ні сланоў, ні чарапах! – вырачыла вочы бабуля. Яна дасканала ведала ўсе песні гурту „Н.Р.М.”! А таксама вершы таты вакаліста Лявона Вольскага, Артура, ды і ягонага дзеда Віталя! – А не кожны трапіць у твор.

– Я б хацеў... – замаркоціўся Грак. – Ёсць жа карціны, скажам, „Гракі прыляцелі”, бачыў я ў „Энцыклапедыі сусветнага мастацтва”. Трапілі ў сусветнае, бачыце...

– Буду бачыць Лявона, – азваўся тата, – запрапаную, каб штосьці напісаў пра гракоў. Грак і рок – гэта класна, ці вы не заўважылі?

– А мне так хочацца паехаць на „Басовішча”! – зноў пачаў ныць Грак.

– Гэта месца, прабач, не для звяроў...

– А я бачыла адну дзяўчыну з прыручаным белым пацучком на плячы. Ён так называўся... неяк, о, Пац!

Грак схапіўся крылом за сэрца.

## На свята

Грак сядзеў на лаўцы перад домам і раздумваў. Пакуль яшчэ свяціла сонца, як кожны дзень, але пачало ламаць яму ў лапцы на дождж. Гэтаксама ламала ў правай назе бабулі Настулі, што з калочкам прыйшла пасядзець якраз на гэтай лаўцы, хоць перад яе домам стаіць падобная, адно без такой адмысловай старажытнай спінкі. Можа, дзеля гэтай спінкі праходзіла дадатковыя метры старэча, а, можа, з-за таго, што захацелася пасядзець ёй якраз з Граком? Зараз, пэўна, выйдзе і кот Шадар, разляжацца на пляме ценю ад ліпавага голля...

– Скажу каму, дый насмяюцца, – бабуля папravіла на галаве шаўковую хустачку – сёння быў Ілля, дык бабуля надзела сваю самую прыгожую вясёлкавую хустачку.

– А чаго ж гэта такое? – здзівіўся Грак. – Як можна смяяцца з бабулі?

– От, кажуць, чартоўшчына якая... Прыйшла з царквы, села на лаўцы і з птушкай размаўляе...

Шадар вызірнуў з-пад лаўкі:

– Што з птушкай... А з катом хто мяў-мяў бы размаўляў, як не бабулі і не дзеці.

– Той гаворыць, што разумее прыроду, – махнуў правым крылом Грак. Пасядзеў хвілю і задыхаўся: – Варта было б, каб сёння дождж які пайшоў.

– Пойдзе, пойдзе, – бабуля развязала вушкі хустачкі. – Ой, горача. Заўжды на Ілю ішоў дождж, колькі жыву. Часам так ліў, што маліліся: Святы Ілля, разжані аблака на чыстыя паля і ляса.

– І што, разганяў? Сёння якраз прасіць трэба: Святы Ілля, нагані аблака... Ка-а-а-а-р-р-р-р...

– Святы Ілля, падлі палі... – зрыфмавала малітву бабуля.

– Святы Ілля, хай з неба пойдзе вада! – Шадар таксама хацеў дакласці сваё.

– Дай вадзіцы крапіўцы! – выхінулася з-пад лаўкі крапіва.

Тут прагрымела над мястэчкам калясніца святога Іллі:

– Дам вады-ды-ды!

– Вось, і яго, як вас, чую! – усцешылася бабуля і выцягнула з вуха свой слухальны апарацік. – І без гэтага чую!

## Кацянятка

Да лавачкі, дзе ў цянёчку, звесіўшы галаву на крыло, выседжваўся Грак, падышоў Шадар. Пры ім маленькімі лапкамі перабірала кацянятка.

– Ну, я бачу, што ты шчаслівы, – пазіраў зверху на малое Шадар. – Хвост уверх трымаеш.

– Вяў, – піснула кацяня.

– Гэта немаўля? – пацікавіўся Грак. – А чыё яно будзе?

– Ну, маё.

– Як гэта так? Адкуль ты яго ўзяў?

– Нарадзілася. Котка Мармурка прывяла.

– Да цябе прывяла?

– Прывяла іх больш. А ім, гэтым, сказала мне займацца. Ён мой сын.



Грак паглядзеў на кацяня, якое з абажэннем узіралася на бацьку круглымі вочкамі.

– Вось бацькоўскі лёс – лаві мышэй, кармі...

– Перайшоў ужо ён з малака на мяса? Надта ж ён маленькі. І неяк на цябе непадобны.

– У вас, гнёздавых, дык голыя нараджаюцца. Каб убачыў ты грачаня... цьфу!

– А адкуль ты ведаеш як нашы малыя, вылупіўшыся з яйка, выглядаюць? – насцярожыўся Грак.

– Ну, добра, добра, знаёмцеся, – Шадар узяў малое за скурку на спінцы, па-матчынаму, і паставіў на лаўцы. – Мікітка, гэта Грак.

– Хіба старэйшаму трэба прадстаўляць меншага, – Грак крануў крылом круглую вялікую галоўку кацяняці. Малеча псыкнуў і паставіў на спінцы шэрстку дыбам:

– Вяў!

– Сапраўды, гаварыць яшчэ не ўмее, толькі вось так вякае, – стаў тлумачыцца бацька.

– Мікітка, а што скажаш? – Грак чула пагладзіў малое па галоўцы канцом крыла. Мікітка замуркаў:

– Мур-р-р-р... Маляцька хацю...

– Вось, бачыш... – Шадар вырачыўся на Грака. – Вось, такія справы... Мае Казлы сказалі мне: „Хочаш, жыві ў нас, але на твайго сына аліментаў плаціць не будзем!” І малака не да-

лі. А дзе ж я яго надаю, прабачце?..

– Ну дык... Я ў бабулі папрашу... Я маленькага накармлю... У мяне ж свайго сыночка няма...

## Мікітка – наш!

– Ну, вось, азваліся ўва мне бацькоўскія інстынкты, – Грак з чуласцю глядзеў на малога Мікітку, Шадаравага сынка. І хоць малы быў зусім не чорны, як бацька, а трохколерны, а нават і чатырохколерны – сам белы, у карычнева-жоўтыя з дадаткам чорнага латкі, тым больш спадабаўся ён Граку. Маленькае і бездапаможнае кашэчае немаўля – хто ж падумаў бы, што так расчуліць яно птушку? Тым больш, што, як ні гавары, тыя каты, як і іншыя львы ці тыгры – драпежнікі. Ды які драпежнічак з такога немаўлятка? Праўда, кіпцікі ды зубкі вострыя, ды мякенькі ён, пухнаценькі, як з ваткі...

Ну, як яму даць „маляцька”, якога малеча так прасіў спачатку ў свайго вусатага бацькі, а пасля ў крылатага суседа? Вядома, трэба было яго весці дадому. Афіцыйна папрасіць малака ў бабулі. Гэта ж не папіванне малака жыльцом хаты сямейнікам, ні нават частунак хітрага суседа, што залез у хату „пасеймікаваць”.



– Усё залежыць у жыцці ад першых крокаў, – абмяркоўваў справу Грак перад парогам, а каля яго сядзелі два каты – вялікі і маленькі. – Трэба ўвесці афіцыйна Мікіту дадому, і папрасіць малака. Ну, малы, давай, прасіся! Мрм.. кр-раў!

– Мяўўўў! – загаласіў Шадар.

– Вяўўў! – прапішчала малое.

Бабуля досыць хутка выхінулася з-за дзвярэй. Шадар шмыгануў убок, а Грак падарваўся ўверх.

– Ай ты, малюсенькі! – бабуля так схілілася над Мікіткам, што амаль не зваліліся ў яе з носа акуляры. – Малачка, пэўна, хочаш! Ну, хадзі, налью табе малачка. Ты, пэўна, Мікітка будзеш! Трохколерны кот прыносіць у хату шчасце!

Узяла коціка на рукі і знікла за дзвярыма.

– Адкуль яна ведала, што ён Мікітка? – вырачыў свае

жоўта-зялёныя вочы Шадар. – Здаецца, я ёй майго сына не прадстаўляў.

– Бабулі ўсё ведаюць! Яны – вядунні! – Грак ад радасці, што малы ўжо дома, аж падскочыў.

– А яна яго там... не пакрыўдзіць, майго сына? – занепакоіўся Шадар.

– Наша бабуля? Яна і яму бабуляй будзе!

Грак хітравата кінуў вокам на Шадара: „Ну, вось, твой Мікітка ўжо наш!”

## На хатняй мове

Гражынка першыя крокі пасля вяртання з канікул зрабіла... да камп’ютэра. Можна было такога спадзявацца! – Грак спачатку раскрыліўся, каб кінуцца з прывітаннямі да сяброўкі, а калі тая ўключыла тэхніку, дык апалі ў яго крылы. А колькі хацелася расказаць! Перш за ўсё пра новага жыхара – Мікітку, якога Грак усынавіў, а бабуля прыўнучыла...

Мікітка сядзеў у лазовай будцы, якую бабуля набыла на рынку, і нават нос не высоўваў з круглай адтуліны-акенца. Рыхтаваліся з Гракам да прывітання маладое гаспадынькі зараней. А тая згорбілася над клавіятурай, нос уткнула ў экран – правярала электронную пошту ад сяброў. Мікітка памалу вылез са свайго лазовага іглу, няўпэўненымі крочкамі падышоў на ціхіх лапках да дзяўчынкі, ускочыў на штаніну і палез на калені. Гражынка нічога не адчула. Урэшце ўскочыў на клавіятуру і затупацеў па літарах. Вельмі падабалася яму перабіраць лапкамі якраз па гэтых клавішах, калі нікога не было дома. А тут – чаго ж такі крык: „І што ты напісаў! Што за бязглуздзіца! Ой, гэта не ты, Грак?!”

– Гэта мой сын, Мікітка!

Гражынка паставіла кацяня на стол. Мікітка ўзіраўся ў яе круглымі зялёнымі вачыма, пасля ўскочыў на плячо і крануў рудыя кудзеркі кіпцюрастай лапкай.

– Які ён твой сын, калі ты чорны?.. А і ён жа не птушка! Вы ж з яйка вылупліваецеся... А наша сям’я ведае, што ў нас у хаце ёсць такое... гракакацяня?

– Бабуля ведае. Мы яго пасялілі, калі вы былі на канікулах. Ну, вядома, у тваім пакоі. Памесцімся, праўда? Мама яшчэ не ведае...

– Мама як мама... Тату на спадабаецца...

– Ён жа такі міленькі... Не зусім шкодны. Толькі фіранку крыху падзёр... і крышачку пакусаў альбом... Дзіцятка ж ён яшчэ, малому трэба дараваць...

– Дазволіш малому, дык і на галаву табе залезе! – вопытна заявіла Гражынка – паўтарыла пачутае ад бабулі.

Адчапіла Мікіту ад сваіх рудых кучаравых валос, якія выразна падраслі за лета і адблісквалі летнім сонцам.

– Нуй ты... вуркоцік-гракакоцік...

– Гру-гру-гру, – зайграла Мікітку ў горле.

– Чуеш – ён па-мойму ўмее! – пахваліўся Грак.

## Убабулілі!

Гражынка змянілася неяк!!! – таптаўся па стале Грак і ўзіраўся на гаспадыньку. Падрасла за лета? Пасур’ёзнела? Такая дзелавітая. Сядзіць нейкая надзьмутая, праглядае новыя падручнікі... Маўчыць. Яшчэ крыху, і забудзе, як з ім, Гракам, размаўляць!.. А тады – што за жыццё... Кожны займецца сваёй малой птушынай справай...

І Мікітка таксама неспакойна цёрся каля Гражынчыных лытак. Як гэта так – усе ж любяць маленькіх кацянятак, любяць насіць іх на руках, туліцца да іхняга мякенькага пуху... Слухаць, як мурлыкаюць сваю спакойную песеньку, кідаць ім мячыкі, клубочак ці пёрка ды ўглядацца, як дурэюць-качаюцца. Усе-ўсянюткія, асабліва дзяўчаткі. А гэтая дзяўчынка нават і не гляне! Пакрыўджаны Мікітка прабегся па пакоі і ўчапіўся за фіранку на акне. Разгайдаўся. Ускараскаўся ўчэпістымі кіцікамі аж пад столь. Ой, высока!

– Ай-ай-ай! – завішчаў малы. – Ратунку! Здыміце мяне-е-е -е-е! Ай, я да мамы хац-ю-ю-ю-ю-ю-ю!

Грак залапатаў крыллем каля Мікіткі. Ухапіў дзюбай за скурку на спінцы, як гэта робяць матулі-коткі, пераносячы сваіх дзетак, ды не ўдалося яму адчапіць кацяняці ад багатай

у складкі ды гіпюры фіранкі. Малы разверашчаўся яшчэ больш, бо, здаецца, Грак, хоцькі-няхоцькі, ушчыпнуў яго занадта балюча! Грак выплюнуў з дзюбы мяккія Мікіткавыя валасы і прызямліўся перад Гражынкай.

– Р-р-р-атуй, ратуй!

– А што такое? – схамянулася Гражынка. – А што тут за гвалт?!

– Там, там, там! – замахаў крылом Грак, паказваючы на акно. – Мікіта!

– А скуль ён узяўся?

– Хто? Гэта ж наш Мікіта! Мы яго... удамавілі разам, усёй сям'ёй.

– Не ўдамавілі, толькі ўбабулілі пакуль. Прыйдуць бацькі, будзе нам усім! – уздыхнула Гражынка і ўзяла крэсла.

Добра, што змагла дастацца, стаўшы на пальчыкі, да коціка.

– Ну, які ты... істэрык! – прытуліла дрыжачага Мікітку да грудзей. І палізала чырвоную царапінку на руцэ.

– Ну, ты сапраўды падрасла за лета! – захапіўся Грак.

## Ціп-топы!

– Толькі пачаўся новы год, як усё прападае! – Гражынка гнеўна тупнула нагой. – Ну, тут жа мне прызнацца, хто ўзяў мой сшытак!

Бабуля толькі паківала галавой. Так, пачынаецца. Хопіць рассеянасці, неакуратнасці. За лета ўнучка так распусцілася, што не можа ніяк сабрацца ў купку. Колькі разоў трэба сказаць, каб клала ўсё на сваё месца. Каб звечара ўжо паскладвала сшыткі і падручнікі ў ранец, каб не забылася пенал з пяром, самапіскай, алоўкамі, лінейкай... Каб загадзя паклала ў кулёчак чыстыя штонікі і блузку на заняткі па фізкультуры. Ну, і, вядома, каб усе ўрокі парабіла, а не бавілася з адным заданнем да поўначы, у сапраўднасці больш часу праводзячы з камп'ютэрам. Дарэчы, гэты камп'ютэр стаў быццам бы замяняць Гражынцы сапраўдных сяброў ды нават і сям'ю. Нібы ўжо нагаварылася з усімі ўдосталь, а ўсё новае і цікавае мог

даць ёй толькі гэты штучны мозг з акенцам-тварам. Ну і Граку ж гэта моцна не падабалася, гэтае захапленне бяздушным камп'ютэрам, хоць і сам тое-сёе з яго даведаўся ды цікавае ўбачыў. Ну, а той балаган... Грак, хоць акуратны, калі справа ва ўласных пёрах, балаганіў не менш за Гражынку. Ды маладому птаху можна такое дараваць – вядома, дзіцятка. Хоць цяпер найменшы ў хаце – Мікітка, і яму ўсё можна. Бабуля можа толькі махнуць на малога анучкай: „Псік! Брысь!" Грак насупіўся яшчэ больш.

– Не махайце галавой, бабуля! Я ведаю, што вы хочаце сказаць. Ды я ўсё падрыхтавала, усё на ціп-топ! Ну, дзе мой сшытак па біялогіі?!

– Ціп-топ! Ціп-топ! Ведаю я вашы „ціп-топы"! Можа, нават і не падпісала яго, а цяпер шукаеш. Хтосьці з калегаў, можа, узяў – памыліўся.

– Наклеіла наклейку з прозвішчам і назвай прадмета... Ну, тут жа ляжаў. Такі каляровы, са здымкам коцікаў у кошыку. Спецыяльна выбрала для гэтага прадмета.

Пачуў Мікітка пра „коцікаў", выскачыў з-пад шафы, дзе сядзеў надта ж ціхмяненькі ўжо з паўгадзіны, час ад часу шамолькаючыся з чымсьці.

– Коцік! – схамянуліся бабуля з Гражынкай і палезлі абедзве пад шафу. Мікітка ўжо расправіўся з бліскучай вокладкай сшытка па біялогіі!

– Але і так яму за гэта нічога не будзе! – звесіў дзюбу Грак.

## Куды адлятаеце?

Ідзе на восень, а тут усё пачынае нанава расці! Зацвілі агуркі ў гародчыку спадарства Казлоў. З зямлі вылезлі новыя сцёблы нарцысаў з завязкамі кветак. Зазелянела трава. І сонейка зноў стала прыпякаць. А Граку раптам штосьці ў грачынай душы зашчымела, засвярбела... Ці то ў нейкі вырай хочацца, ці наадварот – з выраю... От, узяў бы і паляцеў, куды вочы глядзяць!.. Цяпер нішто яго ў хаце не трымала – фортачка была вечна адчынена, мог свабодна выходзіць на вуліцу, сада-

віцца на сваёй улюбёнай лаўцы з рэзбленай спінкай, мог узляцець на плот, на клён... Мог бы і далей... Туды, дзе валэндалася хмара чорных пабрацімаў – разам трымаліся і гракі, і вароны, і галкі, прылятаў туды і старэнькі крумкач... Гарлапанілі, дзерлі дзюбы пра абы-што, хваліліся, сварыліся, паведамлялі, дзе лепшы корм можна дастаць, куды збіраюцца ляцець. Хто ў нейкія цяплейшыя месцы збіраўся, хто заставаўся на аблюбаваных смеццямесцейках, дзе можа і не так багата, ды верна і спакойна, бо вядома. Ой, каб так з імі... Ды і між імі, ва ўсёй грамадзе, былі парачкі. Хіба што ўдавец які або ўдава, што страцілі сваю палову. А што такі кавалер, як Грак? Не крывы, не сляпы, не кульгавы, а ўсё нежанаты. Заняўся людскімі мудрасцямі, лятае па Інтэрнэце, што яму нейкія невіртуальныя падарожжы на сметнік і са сметніка, нават калі той сметнік дзе ў Францыі ці іншай культурнай краіне.

Адважыўся Грак, падляцеў да чарнапёрай грамадкі, што засела на клёне, які зусім не хацеў жаўцець-палаць.

– У Францыю мо паляціце? – спытаўся ў пажылога грака з сівымі пёркамі на скронях. – А, можа, там у Францыі ваша грачышка жыве?.. Бо ўсё крычыце: „Фр-р-р-ра... Фр-р-р-ра...”

– Э там, мая нарачоная там засталася. Ды што там тыя французскія сметнікі! Зусім тамака няўежна, нецікава. Кожны француз сваё смецце сартуе, а тое, чаго нам можна было б наесціся, дык так перарабляе, што застаецца толькі на кампост! А тое хай чарвякі ядуць.

– То тыя... чарвякі, дык, значыць, здаровыя.... такія... вялікія? – Граку аж дзюбу звярнула – усё ж яму больш даспадобы было тое, чым частавала яго Гражынка.

– Э там, пакуль дачакаешся, пакуль яны адкормяцца!.. Лепш на радзіме – тут у нас усяго ўдосталь!

## Першы раз

– Няма ніякае гаворкі, каб Гражынка мела пайсці са сваяком на вяселле! – мама зрабіла катэгарычную міну, якую робіць вельмі, вельмі рэдка. У такі час няма чаго дамагацца, каб на штосьці дала згоду. Можа быць, больш робіць гэта спецы-

яльна, каб паказаць, хто дома кіруе, вядома, – пасля бабулі, а перад татам. Грак, вядома, лічыць, што ён тут цягае за ўсе нітачкі – бачыць жа зверху ўсе механізмы: хто найважнейшы, хто найбольш распешчваецца (на жаль, цяпер Мікітка – нават перад Гражынкай!), хто вырашае аб найважнейшым, а хто хацеў бы, каб гэта быў ён. Вядома, пасля Грака, а можа і перад ім, найважнейшым быць хоча тата. Вядома, мужчына. Справа вяселля сваяковага сябра вынікла першы раз. Раней уся радня бывала разам на сямейных мерапрыемствах – на вяселлях, хрэсьбінах, а нават і на пахаваннях, бо бацькі не хавалі перад Гражынкай таго, што ў жыцці бываюць і тужлівыя хвіліны, а правесці ў апошнюю дарогу сямейных мафусаілаў абавязкова трэба– магілы таксама яднаюць людзей. Гэта вельмі важнае. А тут адну Гражынку запрасіў малады дзядзька, Толік, студэнт, на вяселле свайго сябра. На вяселле ўсе былі запрошаны ў парах. У Толіка няма яшчэ свае сяброўкі для сэрца, дык успомніў пра сваю маладзенькую пляменніцу.

– Гражынка ж дзіця! – бабуля ўявіла, як унучка віруе ў танцы з дарослымі дзядзькамі.

– Я ж буду яе пільнаваць! – не здаваўся Толік.

– А чаго ж мяне пільнаваць? – здзівілася Гражынка. – Я алкаголю нават не прабавала, не куру цыгарэт...

– Можна сказаць – ідэал! – пацвердзіў тата. Ён нават спалохаўся, што ўзяў голас – мама паглядзела на яго яшчэ больш сурова, чым на дачку.

– І спаць пайду зараней, праўда, Толік? Ды гэта ж субота будзе...

– Я прывязу Гражынку дахаты зараней... – уздыхнуў сваяк -студэнт.

– Дык чаго ж ехаць на вяселле з такой малечай?

– А там... Там будзе стол для маладых.

– Ну, пэўна ж... Маладыя ж шлюб бяруць.

– Для маладых, зусім маладых. Ну, у маладое два браты ёсць. Брацікі! Гражынчыны аднагодкі-блізнюкі!

Гражынка спачатку крыху падзьмулася: на вяселле яе ў нянькі запрашаюць? Ды ўсё ж – першы раз – адна!

## Сумы

– У татавых вачах зноўку засеў Сум! – заўважыў Грак. – Як ты думаеш, Гражынка, ці не ад надвор'я ён у яго? Мне самому, як дзень меншае, ідзе на зіму, Сум залазіць у вочы...

Гражынка не мусіла занадта ўважліва прыглядацца да свайго таты Колі, каб прыкмеціць Сум. Тата ўсё пазнавата вяртаўся з працы, маўчаў, бы не меў аб чым размаўляць з мамай і дачкой, альбо, наадварот, нахлынала на яго ахвота да крыху бесталковых размоў, якія, вядома, спыняў на паўслове.

– „Ты мяне зусім не разумееш" – так казаў тата маме, – уголас задумаўся Грак. – Як трэба гэта разумець?

– Праблемы нейкія ў іх паявіліся, ці што? – устрывожылася Гражынка. – Пра такія справы нам і ў школе гавораць, – калі няма паразумення ў сям'і, тады найбольш балюча дзецям! Трэба неяк памагчы. Што ты робіш, калі ў цябе паяўляецца Сум у вачах, Грак?



– Калі на мяне находзіць асенняя меланхолія... Тады я лячуся... травамі. У вазоне з альясам расце трава ад Суму. Я яе выполваю.

– А што за траўка тамака расце? Зямлю бабуля пад альяс прыносіла з агарода.

– Не ведаю! Нейкая дзікая траўка. Зялёненькая. О, як яна добра на мой Сум уздзейнічае...

– Дык што, мой тата, каб вырашыць свае праблемы з Сумам, мае чагосьці наесціся? Мо галушак з мясам ды са скварачкамі?

– Так хочацца зялёнага! Каб хоць паглядзець, сэрца суцешыць, – прахрыпеў Грак і зарагатаў-закаркаў, уявіўшы, што і тата пераржоўвае пахучую траву з-пад альяса.

– Вітамінаў табе трэба, Грак, на тыя твае Сумы, – бабуля рашуча калупнула ў вазоне пад альясам і вырвала развесяляльныя сцяблінкі. – Салату табе прынясу з крамы – які хочаш: маславы, кітайскі ці, можа, італьянскую капустку?

– А мне на суцеху і будуць тыя бульбяныя галушкі з начынкай, ды пад скварачкамі! – засмяяўся тата, заглянуўшы пад покрыўку рондліка, дзе спачывалі вялізныя гарачыя, духмяныя шары.

– Эх, мужчыны, мужчыны... – уздыхнула бабуля. – У ваша сэрца сапраўды трапіць можна адно праз страўнік!

## Папраўкі

– Яна мне чырвоным адзначыла словы „тваю” і „твайго” ў адным сказе! – Гражынка была не менш чырвоная ад гэтых паметак, якія ў яе сшытку пакінула настаўніца польскай мовы на „Лісце Багуславе”. Гэта была хатняя праца – напісаць ліст-параду дзяўчынцы, фрагменты дзённіка якой друкаваліся ў падручніку па літаратуры. У сям’і гераіні расказа паявіліся праблемы – бацькі перасварыліся, тата пакінуў хату, дома засталіся беспрацоўная мама ды Багуся з меншым братам. Вучні мелі дома напісаць ліст Багусі – суцешыць яе, дадаць духу, абнадзеіць. І гэтак аж на дзве старонкі ў сшытку!

– А што вы дагэтуль напісалі ў сшытку? – пацікавілася мама. – Гэтак мала? Ужо ж кастрычнік канчаецца?! Мы ў вашыя гады пісалі дома амаль тыдзень у тыдзень хатнія працы, і не енчылі, што „аж на дзве старонкі”!

– У нас ёсць яшчэ два сшыткі на практыкаванні. Там адно дапісваем па пару слоў, што дзе куды трэба. Усё іншае надрукавана. Гэта каб менш пісаць.

Бабуля схапілася моўчкі, ды вельмі красамоўна, за галаву. А мама цяжка ўздыхнула.

– Ну, дык я напісала на адну старонку, а пані напісала, што „праца цікавая”.

– Камусьці яшчэ напісала, што „праца цікавая”? – пацікавіўся Грак. – Там у вас толькі пішуць ад „палкі” да шасцёркі, а не дадаюць нічога больш. Сам бачыў.

– А калі ты бачыў у мяне „палу”?! – Гражынка азірнулася на маму.

– Гр-р-гр... – пракаўкнуў Грак тое, што раз убачыў, і лыпанув вокам на Гражынчыну маму, якая адразу наставіла вуха.

– Значыць, пахваліла цябе настаўніца, – бабуля ўзіралася ў сшытак Гражынкі, перачытваючы напісанае. – Ну, магла б ты прыгажэй літаркі выводзіць. Нашто я табе „вечнае” пяро купіла, самога „паркера”?!

– Не набрала я атраманту ў пяро... Самапіскай хутчэй. Пахваліла... І „т” ёй не спадабалася!

– Бачу, ты звярталася да адрасаткі з малой літары. Праўда, настаўніца перабрала меру. Лагічна, што ты мусіла ў адным сказе напісаць два разы „тваё”: „Я пра тваю гісторыю даведалася з твайго дзённіка”.

– Р-р-рагічна! – усцешыўся Грак, бо не спадабаліся яму чырвоныя паметкі ў Гражынчыным сшытку.

## Кіно

Гражынчын клас выбіраўся ў кіно. Адзіны ў гэты раз з усяе школы. На доўгі, амаль трохгадзінны фільм. Заняткаў у той дзень мела не быць. Ды на тое, каб пайсці на гэты фільм, патрэбны пісьмовы дазвол таты ці мамы. Бо ж трэба таксама заплаціць за сеанс.

– Мабыць, нейкі патрыятычны той фільм, – паківала галавой бабуля. – Гэта, відаць, пад міністра Рамана і ягоныя прапановы, каб моладзь выхоўваць у такім духу. Трэба, трэба, а то адно нейкія Лары Крофт, нейкія коміксы глядзіце. Ну, без абразы, Гражынка!

– І там ёсць героі, якія могуць падабацца! – заўважыў Грак, які вельмі любіў паглядзець нейкі фільм пра адважнага і моцнага героя, які зможа перамагчы ўсё благое, што пагражае свету ды ўсяму сусвету. І нават тыя героі, бы птахі, лятаць умеюць, і страляць ды ўрукапашную б’юцца як ніхто ў свеце. Ды якія прыгожыя тыя дзеўкі – нават граку падабаюцца, асабліва калі ў іх валасы чорныя як грачынае крыло...

– А мне падабаецца тая... Лара. Люблю чарнявых, – размарыўся Грак. – Такія моцныя гераіні!

– Нашай гераіняй можа быць, скажам, адно Эмілія Плятэр ці літоўская Гражына! – бабуля глянула на рудыя хвосцікі ўнучкі. – А ў гэтым фільме вялікага чалавека будуць паказваць. Калі настаўнік палічыў, што варта весці вучняў на паказ такога фільма, дык няма чаго адмаўляцца.

– А той фільм добра пастаўлены? – пацікавілася мама, вырываючы са сшытка да заметак лісток, каб напісаць заяву

ў Гражынчыну школу.

– Не ведаю, – уздыхнула Гражынка. – Мабыць, добры. Мастацкі. Нядаўна нам паказвалі фільм, дзе не было ніякіх падзей, аб чым нам зараней паведаміла настаўніца. Сапраўды, толькі раз адзін там стрэлілі.

Мама напісала пару слоў на лістку і падпісалася пад імі. Адлічыла Гражынцы грошы на фільм.

Назаўтра ўвечары, пасля сеанса, Гражынка за вячэрай расказала змест захапляльнага фільма пра вялікага героя.

– А ты, мама, ці мусіла напісаць, што пагаджаешся на тое, каб я паглядзела гэты фільм, з такой заўвагай: „У выпадку, калі ён не з'яўляецца халтурай"?! Увесь клас смяяўся! А настаўніца толькі ўздыхнула: „Яшчэ пабачым... што нам яны пакажуць!"

## Ліст Мурцы

Кожны ў хаце павінен мець свой куточак, калі нават жывуць усе ў адным пакоі. Цяжка, пэўна, захаваць інтым у такім выпадку, ды кожны павінен мець сваю прыватную прастору, куды іншым без яго дазволу няма ўваходу. Гэта так як і з лістамі: паважаеш чалавека – ніколі не заглянеш у яго прыватны ліст, нават калі ты мама ці тата. Такі чалавечы закон. Дэмакратычны. Людскі.

– Ну, – падумаў Грак. – Людскі. Дык чаму Гражынка адчыніла мой майл у Трнаву? Праўда, выслаў я з яе пошты, бо ж свае тады яшчэ не меў. А так смяялася! Ну, і што з таго, што мне хацелася спытацца ў Алекса, якое надвор'е ў тым Трнаве? А як жа пачаць размову? Пытаюцца пра надвор'е, настрой... „Як маешся?" – спытаўся я ў Алекса, а ён: „А, маюся, маюся па гэтым свеце". Хто пешшу маецца-туляецца, хто крылом час ад часу махне і здаецца яму, што жыве... А тут і схавацца няма куды. Захінешся заслонай, адразу шукаюць: „Грак, Грачок, дзе ты? Куды ты схаваўся? Ці не зграз зноў за шафай?!" Тая няшчасная бабуліна старадаўняя шафа, а хутчэй вузкая прастора паміж ёй і сцяной сніцца Граку ў найжахлівых кашмарах. Уявіце сябе дзюбай уніз, з прыціснутымі да бакоў кры-

ламі, са здранцвелымі нагамі ўверсе, а ваш крык „р-р-р-ратунку-у” ледзь самі пачуеце?! Нуй схаваўся! Нуй інтым знайшоў! Засакрэціўся! Ледзь яго бабуля ўчула – яна, здаецца, чуе нават ультрагукі! – і дастала яго з-за шафы з дапамогай старажытнай качарэжкі, што стаіць ля камінка... Уффф!

У хаце цішыня, апрача Грака і Мікіткі, што сапе-пахрапвае ў сваім лазовым доміку – нікога няма. Шчоўкнуў Грак уключальнікам камп’ютэра, манітора, увайшоў у Інтэрнэт. Тут і Мікітка ўскочыў на стол.

– З кім ты будзес лязмя-я-яўляць? Напісі ліст маёй мамцы!



– Не думаю, што ў твае мамкі ёсць доступ да камп’ютэра.

– На-а-а-пісі!!!

Грак падумаў, падумаў і ўклікнуў: murka@wp.pl.

– Дык што напісаць? Толькі без гэтых „мля-мля -мля”.

– Пісі! Любая Мамка! Твой сіноцяк казя, сто тут яму добля. Плітуліця хацю да мамкі... Мя-я-яў...

Праз пару хвілін прыйшоў адказ: „Каханы Сыночку! Прытуляю цябе і цалую! Твая мамуля Тыгруля”.

## Гррлыбы!

– Якія гэта былі часы, калі столькі грыбоў бывала! – бабуля перабірала сабраныя ўсёй сям’ёй асеннія грыбы – зялёнкі і шэраватыя падзялёнкі. Збіралася зрабіць з іх свае славутыя марынаваныя грыбочкі.

– І не кажыце, як заўсёды, што да вайны было іх больш. Вы ж самі не памятаеце таго часу! – засмяяўся тата. – Мы ж у верасні проста касою касілі баравікі! Нарабілі вы гэтых слоікаў з грыбамі столькі, што, пэўна, і не справімся з імі да наступных „паляванняў”.

Выбіраюць з грыбоў кастрыцу, мох і іншае лясное смецце, якое вельмі патрэбнае ў лесе, а не ў смакоцці ў слоіку, бабуля з Гражынкай. І Грак тое-сёе выцягвае дзюбай, памагае. Як ні дзіўна, гэта і смачней, і цікавей за самі грыбы. Ну, бо што такое грыб, які ў ім смак, калі няма ў ім чарвячка? А бабуля на

кучку непатрэбнага смецця адкідае такія буйныя, такія харошыя грыбочкі! А там самае цікавае, вось, яны... жывёлкі... Ой, што такое?! – схамянуўся Грак. – Гэта ж мне захацелася пачаставацца гэтым самым... Першы раз у жыцці!

– Грак, смяцюшок, не раскідвай нічога па падлозе! – махнула бабуля ножычкам у бок птаха. – Ну й з цябе памочнік!

Грак уздыхнуў, адскочыў на падаконнік. Паглядзеў на мітусню чорнакрылых сябрукоў. Асенні вецер шкуматаў пёры, падкідаў варон і галак уверх ды на бакі, памагаў добра прыгледзецца да таго, што варта было б убачыць на зямлі. Ды на зямлі ўсё жывое пахавалася ў глебу, у свае норкі, пазасынала, пакачанела, каб з вясной зноў ажыць... Чорнакрылая грамада ціснулася да хатняга птаства – пад'ядала тое, што суседзі, спадарства Казлы, кінулі сваім курам ды гускам, зазірала ў сметнікі. Яшчэ крыху, а мароз прыцісне, і будзе яшчэ больш бядова... А ён, Грак, тут у цёплай хаце сядзіць, на талерачцы ўсё яму пададуць, не трэба яму калупацца ў зямлі... Як жа ім цяжка!

– Бр-р-р-рацція, я з вамі! – каркнуў Грак, адчапіў кручок фортачкі, піхнуў шыбіну і паляцеў да сяброў.

– Ага, пашкадаваў іх, – паглядзела ўслед яму бабуля. – Добры ў нас грак, спагадлівы. Ды падзьме яму вецер пад хвост, вернецца.

Быццам чуў гэтыя словы Грак. Таму не вяртаўся дахаты аж да прыцемкаў. Тады зусім страшна стала.

– Ой, дзюбы не чую! – пастукаў у шыбу. – Давайце цёплага паесці! Гр-р-р-ажынка!

## Намяўкі

Усіх як з хаты вымела. Мама спачатку пайшла з татам і Гражынкай у царкву, а бабуля адразу перад пятай гадзінай раніцы пабегла ў камісію. Бо бабуля мае сядзець на выбарчым участку, сачыць за галасаваннем, а пасля да поўначы будзе лічыць галасы з іншымі членамі камісіі. Рыхтаваліся да ўсяго гэтага тыдні з два, а пару дзён абавязвала выбарчая цішыня.

– Добра, што змоўклі ўрэшце, – прабурчэў Грак, прахадж-

ваючыся па падлозе, бы той тата, калі пачне разважаць.

– Цаму змоўклі? – папытаўся Мікітка, выходзячы з туалета, атрэпваючы лапку аб лапку са жвірку. – Пляўда, ціха.

– Вось, бачыш. Гэта выбары. Гражынка яшчэ не выбірае. А выбіраць трэба.

– А сьто такое вібіляць?

– Сьто-сьто! Гэта так, калі мала што не прысутнічаеш пры пакупцы жвірку, а нават не намякнеш на тое, у якім хочаш... ісці на двор.

– Намяўкнеш? Мяне на дволь не пускаюць у такі досьць.

– Вось, і купяць жвірок, які не ўбірае ў сябе твае, прабач, Мікітка, пахі, або насыплюць табе ў туалет сырога пяску. І тады вазьмі ты захавай прыстойнасць.

– Фе-е-е... – развесіў язычок Мікітка, уявіўшы жоўты калючы пясок пад хвосцікам. – А мне купілі такі, сьто пахне ялінкай. Я і казяў Глязінцы, сьто мне такі падабаеця.

– „Падабаеця!” Трэба патрабаваць: „Мне трэба так ды гэтак. Жыву з вамі, дык маеце са мною лічыцца. Маю свае правы!” А не – дык выберу сабе іншых!

Мікітка вылупіў свае круглыя вочы на Грака, ахопленага выбарчым палам. Грак аж падскочыў, ды зараз і крылы апусціў.

– А ты цяго хо-о-оцясь? А мяне, Мікітку, самога выблялі. Мне тут добля.

– Ніхто тут цябе не выбіраў, толькі прывёў цябе сюды твой татка. Ну, выбраў ён нашу сям’ю для цябе. Але калі б не бабуля... Ну, і я паляцеў бы, калі б мне тут было блага.

– Дык быў гэта ўзаемны выбар-р-р-р! – раптам завуркатала ў Мікітку як у вялікім каце.



## Выбары

– Ну й выбралі, – уздыхнула бабуля, што, як пару дзён таму аказалася, балаціравалася на выбарах. – Мяне не выбралі, хоць здабыла найбольш галасоў у акрузе. Прагарэў наш камітэт.

– Дык чаму вы зусім не вялі выбарчую кампанію? – здзівіўся Грак так, што аж пёры сталі вожыкам на яго чэрапе. – Перш за ўсё ў хаце маглі б яе весці.

Бабуля паглядзела ў чорнае гракова вока.

– А што, памог бы мне сваімі чарадзействамі-марачэннямі?

– У пэўным сэнсе я прадчуваў, што ў вас, бабуля, нейкія важныя справы ідуць, дык сядзеў і марачыў. Уявіў вас як вельмі вялікую асобу, якая накрывае сваёй хустай аграмадную плошчу зямлі. І ад вас выпраменьвалася цёплае святло, якое абагравала тую акругу.

– Нуй ды ўява! – горка засмяялася бабуля. – Мабыць, таму і столькі галасоў аддалі за мяне людзі. Не жарты – намарачыў. Дык чаму ж ты не начараваў усяму нашаму свойскаму камітэту?

– Дык трэба было надрукаваць на лістах не ВК НСК, а канкрэтна: „Выбарчы камітэт Наш свойскі камітэт”. Пэўна, людзі прачыталі „Не свая каманда”, ці нешта кшталтам такога. Або рассакрэцілі гэтак: Hołyja Czornyja Kależki.

– Ты не здзекуйся, Грак. Дарэчы, сам трапіш паміж варон, як кажуць палякі, мусіш каркаць як яны. Я адразу гэта прыкмеціла, дык хто ж мяне, старую, паслухае.

– Бабуля, а, бабуля, а там не было надрукавана, што на пятым месцы ў спіску стаіць Міхалёва. Каб было, што на яе трэ аддаць свой голас, дык яшчэ больш галасоў атрымалі б. Вас усе ж ведаюць у акрузе як Міхалёву.

Тут бабуля ўжо поўнасцю павесялела, разрагаталася.

– Гражынка, вучыся ў нашага Грака. Праз пару гадоў сама будзеш мець выбарчыя правы. І сама выбіраць будзеш, і цябе выбраць іншыя могуць. Ва ўсеагульных, роўных і прамых выбарах – у Сейм, у органы самакіравання...

Грак закрыў вушы крыламі, зусім, як Гражынка.

– Дык ідзі з тымі, хто называецца такім, якім ёсць, – пра-

цягвала свае палітычныя развагі бабуля.

– А, можа, Гражынка, зблакіруешся з нашай бабуляй? – Грак начуўся ўсялякага ў тэлевізары і мог пахваліцца. – І мяне далучыце, як чорную меншасць.

## Смакоцце

Зараз, ужо пасля поўдня, усюды робіцца цёмна. Праўда, час перамянілі на зімовы, у сапраўднасці ўжо семнаццатая гадзіна, а не чацвёртая папоўдні. Гэтак толькі людзі падманваюць сябе і выкарыстанне электраэнергіі. Гражынка, ледзь вярнуўшыся са школы, адразу села за камп’ютэр. Нават не паела толкам, бо ж абед у школе давалі яшчэ далёка да абеду. Схапіла талерку з бульбянымі аладкамі, лінула на іх смятаны, кінула на талерку відэлец... Узіраецца ў экран манітора, перабірае пальцамі па клавіятуры... Брынк! – зляцеў відэлец на падлогу, дык ухапіла блін дзяўчынка двума пальцамі, умакнула ў смятану дый праглынула... Важнейшыя для яе падзеі на экране, чым смакоцце, яе ўлюбёнае, цёплае, хрумсткае, сакавітае!.. Грак сеў побач, дзеўбануў у блін.

– Ты што, не крычыш? – азваўся з поўнай дзюбай Грак.

– А? Чаго? – Гражынка ўзняла бліскучы ад тлушчу палец. – А кыш! Не еш майго!

Грак пракаўтнуў бульбяны камяк. І зноў умакнуў дзюбу ў талерку.

– Вельмі ж смачна. Мікітка, хадзі сюды, тут смятанкі даюць колькі хочаш. Кіс-кіс, ты ж так любіш смятанку!

– Люблю! – ускочыў на стол Мікітка, умакнуў у Гражынчыну талерку вусатую пыску. – Добр-р-р-рая смятанка!

– Добрая? – спахапілася Гражынка. – А гэта што такое робіцца? Мама, яны маё ядуць!!! Давайце мне новае!

– Ну, вось, глянь, Мікітка, ёй гідкія нашы дзюбы! – абразіўся Грак. – Гражынка, аддай нам, мы можам гэта ўсё з’есці!

Мама выглянула з кухні:

– А аладак больш і няма. Адно пяць тату пакінулі, жалезны рэзерв. Яго кранаць нельга. Я свае з’ела яшчэ з патэльні, бабуля ўмяла свае наляту, а твае, кажаш... брудныя? О, бачу,

відэлец на падлозе! А чым ты ела аладкі?

– Лапкай, лапкай Гражынка брала аладкі! Нямытай лапкай! – Мікітка саскочыў са стала, палізаў сабе падушачкі далоні  і стаў мыць сваю папэцканую ў смятану пыску.

– Лапкай, проста ў дзюбку! – удакладніў Грак.

– А сляды злачынства я бачу  на клавіятуры! – заўважыла мама. – Мікітка, можа і тут паможаш?

## Парваць навіны

– Купі мне, мама, сёння „Выбарчую газету”, – Гражынка, як і ўсе яе аднакласнікі, раптам захацела ў апошнія дні набыць тоўстае газецішча, пра якое тата кажа, што ў ім ёсць усё, а бабуля – што нічога, апрача аб’яў, паведамленняў ды палітыканства. Дык Грак адразу пацікавіўся: нашто куча задрукаванай паперы, з якой палову адразу не чытаюць? Хіба ж не на распалку ў печы? Нават малюнкаў мала, каляровых, каб было на што паглядзець. Тата купляе газету, кажа, што добра ведаць пра тое, што пішуць разумныя людзі. А бабуля адказвае, што ў кожнага чалавека свой розум і няма чаго на чужы спадзявацца.

– Тата прынясе з працы, калі, прачытаўшы, там яе не пакіне. Я ад яго забіраю толькі дадатак для жанчын „Высокія абцасы”.

– Гэта жанчыны – дадатак да высокіх абцасаў! – прыгадаў крылатую думку Грак, якую пачуў у нейкай перадачы. І вырвалася ў яго  з дзюбы такая недарэчнасць там, дзе большасць істот – гэта жанчыны!

– Ты хацеў сказаць, што мы адно нейкі дадатак?! – Гражынка ўжо забылася, пра што была гаворка.  Цікавіў жа яе дадатак у „Выбарчай газеце” для вучняў шостых класаў – рэпетыцыя перад экзаменамі ў гімназію. Але тут жанчыны ўтрох сталі як прадстаўніцы ўсяе жаноцкай часткі чалавецтва. Каб нейкае там пташыдла жартачкі з іх рабіла! Абцасы!..

– Я гэта так... Прагаварыўся. Праляцеўся... Чуў у тэлевізары... Гэта, так сказаць, метафара... Ці тая самая, пара...тое.. пера... большанне.

Бабулін тапцік, зусім без абцаса, праляцеў каля вуха Грака. Аж свіснула.

– Ай, гвалт! – залямантаваў Грак. – І гэта называецца адкрытае грамадства! Свабода думкі! Гэта звычайнае парушэнне правоў мае асобы! Я вас... Я ў Страсбург напішу! Хай уся Еўропа ведае... Хто тапцем ваюе, сам ад тапця загіне! Няма чаго смяяцца! Правапарушэнні – гэта нясмешная справа. Тым больш, што я тут у меншасці. Мікітка, падтрымай мяне. Ты тут увесь свет праспіш! Слухай, тут мяне пакрыўдзілі!

– Каго-каго? – перапытала бабуля. – Слухайце, кабеткі! Вось якое кві-пра-кво!

– І квікаюць, і квокаюць у гэтай хаце! – якраз увайшоў тата з „Выбарчай газетай" пад пахай.

– Давай, тата, газету! А дазволіш мне вырваць дзве старонкі?

– Будзем рваць, рваць, рваць! – і Грак, і Мікітка, забыліся пра ўсю палітыку.

## Дзень нараджэння

У кожнага ёсць свой дзень нараджэння, які выпадае кожны год дакладна ў тую дату, калі ты нарадзіўся. І адсвяткоўвае яго кожны як хоча, штогод. Хіба што хтосьці нарадзіўся 29 лютага, дык той дзень нараджэння мае раз у чатыры гады! І вось у бабулі... 16-ты год нараджэння. А ва ўнучкі толькі на чатыры менш – пералічыў Грак. А паводле гракавага веку, дык Грак старэйшы за бабулю – яму ўжо дваццаць! Значыць, у хаце старэйшы за ўсіх – тата. Пасля мама. А наймейшы, вядома, Мікітка. Такая павінна быць і хатняя іерархія: меншыя слухаюць большых, ды большыя таксама ўслухоўваюцца, чаго меншым трэба.

– А мне сёння хочацца зрабіць свой дзень нараджэння, – раптам прыдумала бабуля. – Вось у снежні. Бо ж гэта несправядліва, каб святкаваць свой дзень нараджэння раз у год.

– А каторы? Можа, дваццаты? Адразу і мой справім, – усцешыўся Грак. – Давайце рыхтавацца. А каго запросім? Абавязкова Шадара, хай наведае сына. Толькі што надта ж

пражэрны ён, стол багаты любіць. Ну, я б запрасіў яшчэ... Лёніка, што з Гражынкай у школу ходзіць. Ну, вядома, з Шадарам прыйдуць ягоныя спадарства Казлы, з падарункамі. Пані Казліха смачна гатуе. Частаваўся...

– Ты быў у майго таты дома? – пацікавіўся Мікітка. – Вазьмі мяне з сабою, калі ў госці пойдзеш!

– От, заляцеў туды неяк. А мы ж былі з татам і Гражынкай у гасцях у іхняй бабулі, пад Вялікдзень.

– Вялікдзень – гэта дзень нараджэння? – Мікітка зрабіў разумныя вочы.

– Дзень нараджэння – гэта Каляды, – Грак ужо разбіраўся ў святах. – Ды гэта Хрыстова свята.

– А ў „Хрыстова” колькі гадоў?

– Ну, больш за дзве тысячы.

– Многа! Вялікі які! – Мікітка спрабаваў уявіць „Хрыстова” як старэйшага нават за Бабулю. – Прыйдзе да нас у госці? Падарункі прынясе?

– Да ўсіх прыйдзе Ён у адзін дзень. І ўсе да Яго прыйдуць, – бабуля раптам задумалася. – Як вы, малыя, усё вяртаеце на сваё месца.

Грак крыху насупіўся:

– Малыя, малыя. А што, ці адно дзеці пытаюцца?

## Галава баліць

– Добры спосаб – аб усім забыцца! – бабуля сядзела на ўслончыку ў кухні і матала галавою.

– У бабулі сум! – спахапіўся Грак. – Былі сумы ў Гражынкі, надта вялікія сумы ў яе таты, а ў бабулі і мамы ніколі сумаў не было. Мабыць, і не магло быць. Бабуля і мама павінны самі змагацца са сваімі сумамі, каб ніхто не бачыў і не чуў. Дык што зробіш, калі хтосьці такі, як Грак, чужыя сумы адчувае кожным сваім пёркам? А што рабіць, калі хтосьці такі моцны, як ваша бабуля, рассумуецца?

– Бабу-бабуленька! – Грак пачаў так, як Гражынка, калі вельмі трэба да бабулі прытуліцца. – Каб мы ўсе таму навучыліся, што вы ўжо забылі! Не сумуйце, я вас суцяшаць ды паця-

шаць буду! Станцую вам, бабуля, грака-гапака!

І Грак кінуўся ў танец на кухонным стале. І скакаў, і пераварочваўся, і вадзіў колы крылом, і распускаў пёркі па баках, і чапурыў на чубе...

А бабуля далей матае галавой ды ўздыхае, а нават абхапіла лоб далонямі.

– Ой, бабу-бабуленька, можа, у вас галоўка баліць? Адчыніце шафку з лякарствамі, папытайцеся ў пані Гвазьдзіковай... – Грак не адставаў. Бабуля ўрэшце квола ўсміхнулася.

– Ой, сыночак! Дажыві ты майго ўзросту, іначай паскачаш! Мы, старыя, вельмі ж усім перажываемся – і дзецьмі сваімі, і ўнукамі, і ўсім светам! Надумаешся-надумаешся, і галава аж трашчыць. Здаецца, чэрап табе лопне папалам!

– Абвяжыце галаву хусткай! – злякаўся Грак. – І я таксама перажываюся. Хоць у мяне і дзяцей, і ўнукаў родных няма. А наглядзішся ў тэлевізар – колькі чаго ў свеце творыцца! Ой, у галаве мне таксама лопае! Бабуля, ратунку! Паміраю ад болю!

Сапраўды, Граку здалося, што па ягонай галаве заламатаў малаток. Уявіў сабе, як ягоная прыгожая галоўка разлуплівaецца, быццам грэцкі арэх, а з галавы высыпаюцца чорныя думкі.

– Грачку-сыночку! – бабулі і не трэба было гаварыць пра тое, што робіцца ў Гракавай галаве. – Зараз павяжу тваю галаву, каб твае думкі не разбегліся! Які ты спачувальны, які ты добры хлопчык! Давай, пап’ем цёплай мелісы, палечымся, паляжым крышку... Прыйдуць нашы дахаты, а па нашых сумах і следу не будзе. Ці-і-і-і-ха!

Павязала бабуля сабе на галаву хустачку-касынку, а Граку – наматала кавалачак бінту. Палеглі разам на канапу, а Мікітка прылёг паміж імі і стаў мармытаць супакаяльную баймурмуркалыханку.



## Прыбіранне года

– Вось і канец года, – бабуля завяршыла год, парваўшы на шматочкі старыя рахункі і квіты яшчэ з мінулага, 2005 года. Трымала іх столькі часу, і ні хвіліны больш, бо калі б хацела захаваць нават такія „памяткі”, хата лопнула б па швах. А пра лістоўкі фірмаў усялякіх, якія завальваюць свет інфармацыямі аб сваіх вырабах, дарагіх і танных, лепшых і неабавязкова добрых, няма што і гаварыць. Звычайныя паперы можна выкарыстаць як распалку ў печы, ды што рабіць з усім гэтым у горадзе? Дарэчы, звычайная папера калісьці раскладзецца ў прыродзе, ды цяпер да яе дадаюцца розныя дадаткі, фарбы, а гэта на сотні гадоў забруджвае свет!..

– А мне каляровыя ўсе гэтыя лістоўкі падабаюцца, – бурчаў Грак, хаваючы ў сваю кардонку няцэлыя ўжо акрайкі розных часопісаў. – Усё гэтае, як кажаце, смецце. Не дам спаліць у печы такую прыгажосць! Схочацца паўзірацца, дык дастану і буду глядзець на гэтыя краявіды, на гэтых прыгожых людзей і жывёл...

Папраўдзе, на лістах, падабраных Гракам, не ўсё было такое прыгожае – тое-сёе парваў дзюбай, там-сям папляміў ежай... Праўда, шмат хто з вас таксама любіць чытаць, падгрызваючы якое смакоцце? Нават тата зрання, спяшаючы на працу, за сняданкам сваю „Выбарчую газету” лістае. І ці бабуля што скажа на тату? Хутчэй на маму накрычыць, хоць мама таксама вялікая – яна ж бабуліна дзіцё...

Грак утаптаў сваю здабычу, каб менш месца займала ў скрыначцы. Накрыў зверху Гражынчыным часопісам „Брава”. А сам паляцеў на кухню, напіцца вады – надта ж стаміўся заняткам.

А тут раптам бабулін смех з пакоя ды прыглушанае Мікіткава мяўканне!

– А, ты тут схаваўся? То ў канапу, то ў Гражынчын рукзак, то зноў у які пакет! А што ты тут робіш? О, як жа я не заўважыла гэта сметніка?! Я ж, здаецца тут ужо прыбрала?

– „Сметнік!!!” Знайшла! Забярэ! Выкіне! – Грак ад крыўды ўпусціў на кухонную цырату птушыную слязу, падобную на кроплю расы.

## Каму за сорак?

Захварэла мама, паехала ў бальніцу. Калі звычайны дзень, дык часам і не заўважыш, каго няма дома: кожны ідзе на працу, у школу. Зімой так ад цямна да цямна. А нават увечары, ды калі разам не вячэраюць, і так невядома, хто ёсць дома, а каго няма; кожны займаецца сваімі справамі. Адно Грак і Мікітка заўжды на сваім месцы – таму і відаць ім, калі каго няма. А на іх сёння нават ніхто не глядзіць – рабі, што хочаш, хоць ты ставай на галаве. Ды тата адкінуў сваю газету – вось навіна! І нейкім больш прытомным зрокам глядзіць на людзей і звяроў, бы нарадзіўшыся нанова. А гэта толькі – мамы няма!

– Гражынка, ці не трэба табе праверыць урокі? – пацікавіўся тата.

– А ці памятаеш, тата, у якім я класе?

– Як у якім? Ты ж хіба ведаеш сама?

– Мне ж даўно не трэба правяраць урокі!

– А, то і добра, бо я сам ужо шмат што забыўся, таму што ведаеш, як нас у ліцэі вучылі. Здаў на атэстат сталасці і адразу забыўся.

– Шчыры, шчыры ў нас тата, – прабомкаў Грак.

– Што ты кажаш? – тата са здзіўленнем глянуў на птаха. – Што ж гэта такое? Чуеце, Грак мяне па-нашаму павучае!

– Гэта ты па-нашаму пачуў! – бабуля выцерла талерку ручніком, быццам намервалася нацерці тату патыліцу. – Чуеш, Грак?

– Можна тату даравіць! – Грак вяла махнуў крылом. – Ці ўсе чалавечыя мужчыны такія?

– Гэта каму за сорак! – патлумачыла бабуля невядома каму.

Найбольш зацікавіўся яе словамі Мікітка, які гуляў клубочкам, і пачаў паўтараць „сорррррак, соррррак" – вельмі ж падабалася яму вуркатаць па-даросламу.

– Ой, мама звоніць! – спахапілася бабуля. – Пытаецца, як трымаецца наш тата. Вядома, усё ў парадку. Усе нашы хлопцы ў парадку – і тата, і Грак, і Мікітка. А мы, дзяўчаты, усё трымаем на галаве.

Мікітка паглядзеў на бабуліну галаву, што схілілася над пруткамі – бабуля вязала шалік. І на Гражынчыну галоўку над

кніжкай: „Ня-я-я-я-яма там ніцога...” – і пагнаўся за клубочкам. А тата ўсунуў нос у газету.

## Як вушы развесіць

– Нікуды не пойдзеш, на ніякія дыскатэкі, на ніякія танцы, – галасіла Гражынчына мама. – Наглядзішся ўсяго ў тэлебачанні. Нідзе дзіця нельга пусціць – усюды цікуюць за ім усялякія брыды! Нават суседзям нельга верыць, даверыць! А дзіця ўсюды ўлезе, усюды пойдзе!

Мама найбольш перажывала, дарэчы, як і ўсе, чытаючы ў газетах і Інтэрнэце пра прапажу і росшукі маленькай Гражынкі, а пасля сумную вестку пра яе гібель. Светлы тварык нявіннай ахвяры быў усім вядомы. І што яна таксамаГражынка – Граку цяжка было ўявіць. Яму здавалася, што ва ўсім свеце толькі адна Гражынка. А ў тае Гражынкі, можа, і свае сабачка ці коцік? Можа, якісьці грачок ці шпачок знаёмы? І ў іх няма цяпер свае Гражынкі...

А іхняя Гражынка збіралася на баль. Гэта ж карнавал! Гэта ж апошнія дзіцячыя забавы! У пачатковай школе. Бо калі ўжо чалавек пойдзе ў гімназію, дык ужо ён моладзь. А тут уся сям’я – не ды не! Не ды не! Сядзі дома, а выходзь толькі са старэйшымі! Яшчэ б целаахоўніка нанялі! Быццам хто захацеў бы залатую дзяўчынку ўкрасці для мільёна! Або нейкі крыўдзіцель цікуе за кожным дрэвам! Не такая ж Гражынка дурненькая, каб паверыць кожнаму сустрэчнаму ды заводзіць з ім „гадку”. Ну, можа, раней так і бывала – пакуль дадому вернецца, дык пры ўсіх бабулях-дзядулях вушы развесіць, як тыя ветразі, і слухае.

– Мама, я буду Гражынку пільнаваць! – рашыўся Грак. – Калі што – скорая лятучая дапамога ўключае свой сігнал! Крок за крокам буду за ёй сачыць.

– А гэта што такое чорная твая галава ўздумала?! Прыватны шпіён??!

– Які там шпіён! Проста – целаахоўнік. Дарэчы, не мушу за табою лятаць, можаш мяне насіць у чамаданчыку. З дзірачкамі, каб дыхаць мне было добра, і каб усё я бачыў.

– А „узі” табе не трэба? – папытаўся тата. – Ізраільскі аўтамат?

– Праўда, ён зручнейшы за „калашнікава”, меншы, – пагадзіўся Грак. – Ды хіба ж можаце ўявіць, што Гражынка будзе яшчэ і „узі” насіць разам са мною?

– А Божа ж мой, Божа! – залямантавала бабуля. – Кіньце, мужыкі! Што ж гэта на свеце парабілася!

– А так, а так! – Граку ад усяго гэтага крыло сагнулася ў кулак.

## Цуд-лякарства

Ну, вядома, усе пахварэлі. Гэта ўсё з-за таго, што снегу не было так доўга. Насыпле снегу – „новая атака зімы”, з якой немагчыма справіцца дарожнікам і транспарту, ды і гэтак, што гарады і мястэчкі, і людзі разам з імі апынуцца як на Антарктыдзе. А снегу ды марозу няма – усе плачуцца: што ж за зіма такая, што не злепіш снегавіка, не пакатаешся на каньках ці лыжах. А калі яшчэ і зімовыя канікулы на носе! Не магла дачакацца і снегу, і канікул Гражынка. А тут раптам – усе дома. Нікуды яна не паехала, з хаты ніхто нават на працу не выбіраецца. Усе злеглі. Апрача Грака і Мікіткі. Мікітка яшчэ ні разу не хварэў – быў, праўда, у лекара, з бабуляй, нават кніжачку атрымаў, але далі яму толькі не зусім балючы ўкол і нейкую салодкую пасту палізаў, прафілактычна, казалі, што ад кашэчага грыпу. А тут грып чалавечы – значыцца, ніхто не браў уколу? А, можа, не грып, а нешта іншае?

– Што ім доктар даў на аздараўленне? Поўныя торбы лякарстваў з’ядаюць, а не ўстаюць? Пагуляць няма з кім...

– Трэба змяніць ім лякарства. Я злятаю да лекара, папытаюся, – адважыўся Грак.

– Ой, не ляці нікуды! За акном так вецер вые! Свету не відаць. Можа, сам штосьці выдумаеш? Ты вучоны птах, начытаўся ўсяго... Я Гражынку лапкай буду гладзіць... Гэтая самая... аку.. аку... прэсура. А ты...

Грак зірнуў на вялікі альяс – бубулінага гадаванца. Расліна была, сапраўды, як волат – расла ў цэбрыку, а калючыя

тоўстыя лісты аж зіхацелі. Грак адшчыпнуў дзюбай галінку, а з ранкі пацёк клейкі сок.

– Ой, не чапай! Бабуля будзе злавацца! – злякаўся Мікітка. – І кроў у яго цячэ?..

– Зажыве! – Грак ужо ўкідаў у міску наступныя кавалкі альяса і аддзіраў ад мякаці скурку.

Прытэпала бабуля, учуўшы гам на кухні. Мікітка ўжо заплюшчыў вочы: ой, будзе Граку, што так вазон падзёр! А бабуля аж пляснула ў ладкі:

– Ой, Грачок, малайчына! А я ўжо забылася, што маем у хаце такое цуд-лякарства!

## Раптам канец?

– Вось і канец! – уздыхнула Гражынка і кінула сшыткі на стол. – Цяпер пачынаюцца... усходы. Экзамены, экзамены!

– І так да канца, – уздыхнула не лягчэй бабуля.

– А трэба быў вам, мама, той экзамен на вадзіцельскія правы? – азваўся тата. – Трэба было б куды паехаць – падвезлі б вас суседзі Казлы. А то і машыну купляй, калі правы ўжо ёсць.

– Хапіла б маленькай, якраз на чатыры асобы, бо мы ж з Мікіткам мала месца займаем, – хуценька ўключыўся Грак: трэба каваць жалеза, пакуль гарачае!

– Гэта немагчыма! – тата ўскудлачыў чуб, як тады, калі вельмі ўзбураны і злосны. – Калі б купляць машыну, дык ужо акуратную, не з другіх ці трэціх рук, і ўжо якуюсьці больш самавітую, не на смех, каб без сораму на дарозе паказацца. А такую раз-два і ўкрадуць. А колькі такая жарэ! Мы ж з торбамі пойдзем!

Мікітка спалохана глянуў на Грака: а каму яшчэ патрэбная ў хаце такая жыркая машына і чаму ды куды гэта ўся сям’я мае ісці з торбамі?

– Можна купіць нам і новую, возьмем у крэдыт – банкі ідуць цяпер людзям на руку, паніжаюць працэнты... – ажывілася бабуля і зірнула на Гражынку.

– Ой, і на руку хтосьці пойдзе... людзям! – Мікітка аж па-

дагнуў сваю лапку: ведаў што гэта такое, калі хтось камусьці па ёй пройдзецца, вядома, выпадкова, ды каб знарок?!

– Мы ж утраіх яшчэ зарабляем, – кавала жалеза бабуля. – Неяк справімся з даўгом. І Гражынка у нас расце, зараз у школу новую пойдзе...

Гражынка была ўжо забылася пра свой першы клопат, бо і яе захапіла ўява ўласнага аўто, а тут зноў...

– Экзамены! Зрабілі нам, вось, экзамен на канец пачатковай школы...

– Ці не зарана?.. Ты што мне хочаш сказаць?! – раптам насцярожыўся тата. – Дарэчы, не канец свету, калі што...

– Нічога благога. Пробны быў. Справілася, вядома. Ды раптам прыйшло мне ў галаву, што гэта ўжо канец. Дзяцінства...

– Гр-р-р-р-ажынка! – Граку ад хвалявання захрыпела ў горле. – То мы ўжо... р-р-р-р-аптам дар-р-р-рослыя зр-р-р-р-рабіліся?!

## Паверыць у цуд

– Я ўжо ў Дзеда Мароза даўно не веру! – засмяялася Гражынка. – Ён, мабыць, дзесь ужо ў марозным небе, калі нават і жыў калісьці як святы Мікола. Ну, калі ўжо, дык падарункі можа мне прыносіць кожную нядзелю, а нават укідваць іх у комін ці засоўваць у шкарпэтку. Хоць не ўсё ў шкарпэтку ўлезе...

А пазапланавы падарунак ад Дзеда Мароза – гэта быў лічбавы фотаапарат. Пра яго ведаў якраз Грак, ды доўга трымаў дзюбу зачыненай, бо сяброўка Дзеда Мароза, бабуля, узяла з яго грачынае слова. А грачынае слова – мур-бетон! – зламаць немагчыма. Гэта як кропка і амін. І Грак, адкрыўшы бабуліну таямніцу, маўчаў як магіла, хоць свярбела яму дзюба пра ўсё расказаць Гражынцы. Бо ягоная сяброўка марыла пра такі падарунак! А так усе ашчаднасці выдавала на праяўленне здымкаў. Бо звычайны фотаапарат быў заўсёды ў яе сумцы. А колькі можаш зрабіць здымкаў на адной плёнцы? А калі не атрымаецца? Бо Гражынка марыць стаць вядомым у свеце

майстрам фатаграфіі. А здымаць найбольш любіць прыроду. Усё жывое!

– Ну, калі не верыш... Дзед Мароз дзейнічае не толькі ў Каляды ці Новы год.

– Дык што ён робіць у іншы час? – таптаўся па стале Грак і аж знемагаў унутры ад смеху, уяўляючы радасць сяброўкі ад новага падарунка. А бабуля падышла да дзвярэй, бо хтосьці моцна пастукаўся.

– Ой, Дзед Мароз! – ахнула Гражынка.

На парозе стаяў, абапершыся на кульбаку, дзядзька з сівой доўгай барадой ды сівымі валасамі, што ляжалі ззаду на сінім кажушку. З-за сеткі маршчын весела глядзелі цёмна-сінія вочы. Дзядзька, хоць моцна пасівелы, цяжка назваць яго было дзедам, на плячы трымаў зусім не мяшок з падарункамі, а рэпарцёрскую пацёртую торбу.

– Ці добра я трапіў? – з усмешкай спытаўся Дзед Мароз і стаў даставаць з сумкі кардонку, загорнутую ў чырвоную паперу. – Мяне да Гражынкі прыслалі. Тут падарунак за найлепшы яе здымак, які прымаў удзел у конкурсе.

Гражынка, хоць аж трымцела, каб адкрыць каробачку, жахнулася:

– А я нічога на конкурс не пасылала!.. Ай, бабуля, гэта вы! А вы адкуль узяліся?

– Рэдактар Юрка Тартак! – засмяяўся дзядзька. – Час ад часу, калі не думаю пра perpetuum mobile, памагаю верыць у Дзеда Мароза. Бо я ў яго верыць не перастаў!



## ЗМЕСТ

Рэдактар
*Галіна Тварановіч*

Тэхнічны рэдактар
*Павел Бельскі*

Праект вокладкі,
графіка (стр. 47, 73)
*Радаслаў Маціевіч*

Камп'ютэрнае графічнае афармленне
*Андрэй Грабоўскі*

Выдадзена за кошт сродкаў Культурнага цэнтра Беларусі
пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы



ISBN 978-83-7657-296-3

Nr 101




Mariusz Śliwowski
ul. Kolejowa 19, 15-701 Białystok,
tel. 602 766 304, e-mail: prymat@biasoft.net,
www.prymat.biasoft.net